«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (221), студзень 2025 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 1 (221) (студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



## Змест






Фота Сяргея Плыткевіча

ПРОЗА

# Ведзьма



Віктар ВАРАНЕЦ

Унтэр-афіцэр жаночага батальёна Марыя Боцвіч прысела на скрыню, якіх багата было накідана на барыкадзе, дастала з кішэні скамянелы сухар і пачала няспешна яго грызці. Навокал стаяла такая цемра, што не ўбачыш пальцаў на выцягнутай руцэ. Дзесьці чуліся адзіночныя стрэлы, час ад часу гучалі нейкія каманды.

— Дзе камандзір трэцяга ўзвода? — пачулася паблізу.

— Тут! — гучна адазвалася Боцвіч і са шкадаваннем паклала сухар назад у кішэнь. Паднялася, паправіла шынель, закінула за плячо вінтоўку.

— Вы б хоць лямпу якую запалілі, — ужо зусім блізка прагучаў мужчынскі голас. — Гуляй тут у хованкі…

— Лямпы ўсе перабілі юнкеры па загадзе камандавання, — адказала Марыя. — А вы хто будзеце?

Фігура рослага мужчыны ў вайсковай форме ўзнікла перад дзяўчынай. Пстрыкнула запальнічка, асвяціўшы пагоны палкоўніка.

— Прадстаўнік Генеральнага штаба палкоўнік Кубасаў.

— Камандзір трэцяга ўзвода ўнтэр-афіцэр Боцвіч, — адрэкамендавалася і Марыя.

— Вось Вы мне і патрэбны! — узрадаваўся Кубасаў. — Ваш узвод прыкрывае галоўны ўваход у Зімні палац. Перад вамі стаяць юнкеры, злева і справа першы і другі ўзводы жаночага батальёна. Бальшавікі прад'явілі ўльтыматум аб здачы. Зразумела, мы адмовіліся. Неўзабаве будзе атака. Вам загад, унтэр-афіцэр: ні кроку назад, біцца да апошняга байца. Мы пастараемся знайсці для вас падмацаванне.

Тут бухнула гармата з «Аўроры», пачуўся абстрэл барыкады ад Эрмітажа і паўлаўскіх казармаў. Палкоўнік імгненна знік у цемры.

— Да бою! — скамандавала Марыя.

Байцы жаночага батальёна пачалі весці агонь па матросах, што кінуліся ў атаку на Зімні палац. У імгненне ўсё навокал загрукацела, гукі стрэлаў і выбухі снарадаў зліліся ў адзіную какафонію смерці. З'явіліся першыя параненыя і забітыя, але атака была адбіта. Праз гадзіну батальёну паступіў загад вярнуцца ў палац. Трэці ўзвод размясціўся на другім паверсе. Неўзабаве з'явілася старшы ўнтэр-афіцэр Бачарнікава і паведаміла, што Зімні захоплены бальшавікамі.

— Дзякуй за службу! — са слязьмі на вачах прамовіла камандзір батальёна. — А цяпер загадваю ўсім разысціся, пакуль вас не схапіла матрасня.

Калі Бачарнікава знікла за дзвярыма, дабраахвотніцы павярнуліся да Боцвіч.

— Што рабіць, камандзір?

— Усе бягом на чорны ход! — загадала тая і пабегла праз залу. За ёй кінуліся астатнія. Дзесьці праз два завулкі яны спыніліся, цяжка пераводзячы дых. Каля Боцвіч засталіся шэсць байцоў. Астатнія, відаць, зніклі па дарозе.

— Дзяўчаты, — звярнулася да сяброўак Наталля Смірнова, — тут недалёка жыве мая бабуля. Давайце пакуль у яе перасядзім.

Усе зірнулі на Марыю. Яна моўчкі кіўнула галавой, і дабраахвотніцы шэрым ланцужком пакрочылі за Наталляй. Бабуля жыла ў падвальным памяшканні трохпавярховага дома на Фантанцы. Ужо каля самых дзвярэй дзве дзяўчыны, Таня Мішына і Маша Зубава, раптам перадумалі заходзіць у дом.

— Нам тут чатыры станцыі да вёскі праехаць. Як-небудзь праскочым. Не крыўдуйце, сяброўкі!

Яны абнялі кожную на развітанне і рушылі да вакзала.

У Вольгі Іванаўны, Наташынай бабулі, было цеснавата, але цёпла і ўтульна. Дзяўчаты скінуліся грашыма, і пакуль гаспадыня збегала ў магазін па прадукты, з задавальненнем памыліся самі, памылі адзенне і, задаволеныя, расселіся ля стала. Бульба, селядзец, каўбаса, нават пра пляшку гарэлкі не забылася старая…

— Сёстры, — паднялася з крэсла Марыя, — давайце вып'ем за наша ваеннае сяброўства, мацнейшае за ўсё на гэтай зямлі!

Усе кульнулі свае келішкі, прыкусілі і паступова адчулі, як адпусцілі сэрцы абцугі, як захацелася размаўляць, весяліцца, жыць.

Гэта была першая ноч, калі яны спалі спакойным сном, хаця на вуліцы там-сям чуліся стрэлы, крыкі, выбухі. А раніцай нехта моцна забарабаніў у дзверы. Боцвіч выцягнула з-пад падушкі рэвальвер і пакрочыла да выхаду, заўважаючы, як сяброўкі ціхенька пабралі вінтоўкі, узводзячы затворы.

— Хто там? — запытала Марыя.

— Гэта я, Таня Мішына, — пачулася ў адказ.

— Таня? — здзіўлена перапытала дзяўчына і хуценька адкінула дзвярны кручок. У кватэру ўвайшла Таня. Але пазнаць яе было вельмі цяжка: разбіты, у крыві твар, гімнасцёрка без аднаго рукава, брудныя падраныя нагавіцы.

— Таня, што здарылася?! Дзе Маша? — баючыся адказу, запытала Боцвіч.

Мішына прайшла да стала, села і гучна заплакала.

Ужо значна пазней, калі Таню памылі, перавязалі і крыху пакармілі, сяброўкі даведаліся, што ў цягніку да іх адразу ж прычапіліся салдаты, якія ўцякалі з фронта. Спачатку яны проста здзекаваліся з дзяўчат, называючы афіцэрскімі пасцілкамі, штурхалі, са смехам пароли штыкамі. А потым нехта прапанаваў:

— А чым мы горшыя за афіцэраў? Пакаштуем дваранскіх прысмакаў!

І тут жа ў вагоне іх пачалі гвалціць. Колькі было тых салдат, Таня нават успомніць не магла. Здавалася, гэта адбывалася вечнасць. А затым іх проста выкінулі на хаду з вагона. Маша стукнулася галавою аб тэлеграфны слуп і памерла імгненна. А Таня Мішына, крыху апрытомнеўшы, пайшла назад у Петраград…

Усе моўчкі слухалі, баючыся зірнуць Тані ў вочы. Цішыню першай парушыла Боцвіч.

— Спадзяюся, усе зразумелі, што на вуліцы людзей не засталося. Толькі звар'яцелыя жывёлы. І на месцы Тані з Машай можа апынуцца любая з нас, калі мы раз'едземся па хатах.

— І што ты прапануеш? — нясмела запытала Алена Козіч.

— Пакуль не ўсталюецца ў краіне які-кольвек парадак, мы павінны быць разам. Мы два гады ў акопах, мы ўмеем пастаяць за сябе, мы здольныя на многае, калі мы разам.

— А што мы будзем есці? А на якія сродкі будзем жыць? — пасыпаліся пытанні.

— Мы створым банду, — спакойна адказала Марыя.

— Банду?! — спалохана перапытала Вольга Іванаўна, якая да гэтага моўчкі назірала за падзеямі, і перахрысцілася.

— Так, банду! Мы аддалі сваю даніну цару і Айчыне, мы старанна ахоўвалі таўстасумаў ад знешніх ворагаў, — час узяць разлік. І яны нам заплоцяць, — шчокі Марыі запалымнелі агнём, у вачах заскакалі д'яблікі рашучасці і бязлітаснасці.

— А я падтрымліваю Марыю, — нечакана загаварыла самая ціхая з кампаніі Вера Кавальская. — Ну колькі, дзяўчаты, можна цярпець і баяцца? Я з табой, Маша!

— І я! І я..! — падтрымалі астатнія.

Боцвіч з удзячнасцю ўсміхнулася таварышкам.

Заканчэнне на стар. 3 »

# Як перажыць?



Альжбета КЕДА

Настаўніца вярнулася з пахавання. Села ў ганку пры вакенцы і застыла. Рабіць нічога не магла, хоць працы заўсёды нямерана. Усе гэтыя дні вярэдзілі яе сэрца згадкі пра даўняе, пра час, калі прыехала яна ў вёску мужа, маладзенькаю, адразу пасля педінстытута…

— Калі татка мамку б'е, я не ведаю, што рабіць. Спачатку плачу, а ён усё б'е. Тады пачынаю смяяцца, бо я не ведаю, што рабіць. Тады зноў плачу. Што мне рабіць? Як мне перажыць?

Яна, маладая настаўніца, таксама не ведала, што рабіць. Не ведала, што сказаць гэтаму хлопчыку з яе чацвёртага класа. Не ведала, як суцешыць. Усё, чаму яе вучылі ў інстытуце, падавалася цяпер нікчэмным, непатрэбным. І яе выдатныя веды, і яе захапленне літаратурай, якая, верылася, здольная была даць адказы на ўсе пытанні, таксама былі нікчэмнымі. Якія далёкія ад жыцця тыя вечныя пытанні, што ўздымала прыгожае пісьменства. Яна пачынала ненавідзець Дастаеўскага з ягонай філасофіяй пра слязу дзіцяці. Вось тое дзіця, перад ёю. Яно выплакала ўсе свае слёзы. Яно не ведае, што рабіць. Яно не плача. Ніколі не бачыла ў ягоных вачах слёзаў. Калі чытала апавяданне «Слёзы Тубі», а чытала яна выдатна, была лепшай чытальніцай у групе, плакалі ўсе дзеці. А ён не. Цяпер яна разумее, чаму. У жыцці яго столькі болю, што смерць нейкага няшчаснага, далёкага Тубі не можа крануць да слёз.

Васілька вылучыла між іншых дзетак адразу. Не адгукаўся ён на жарты. А ёй так падабалася, калі дзеткі са смешнага смяяцца пачыналі. Быццам назаўсёды сум у вачах хлопчыка пасяліўся і месца там ніякім пачуццям не засталося. Дык што ж ёй рабіць цяпер тут, у класным пакоі, пасля заняткаў, калі яна засталася адна, а хлопчык затрымаўся і пачаў гаварыць? Ён ужо некалькі разоў паўтарыў тое ж самае. Глядзіць на яе з такой надзеяй. Што яна можа сказаць? Хацела распытаць, чаму б'е, за што б'е. Пачала пытаць, а ён быццам не разумее. Яна не ведала, што рабіць…

Прыйшла дахаты. Ніяк не выходзілі з галавы словы хлопчыка. Глядзіць ёй у душу вочкі ягоныя, светлыя, блакітныя, болем перапоўненыя. Расказала мужу. Усе ў вёсцы ведалі, што Антон б'е жонку. А што зробіш? Яна не скардзіцца. Аднойчы секачом перабіў руку, у бальніцу трапіла, лячылі. А не сказала, што гэта муж. Не прызналася. Сама, сама вінаватая. Секанула, як карове буракі секла. Засталася рука калекая, балела на змену надвор'я.

Не магла настаўніца зразумець, чаму жанчына так паддалася, чаму трывае боль, здзекі. Хацела пагаварыць з ёю пасля класнага сходу. Не стала тая слухаць.

— Што Вы ад мяне хочаце? Мой сын не горшы за іншых дзяцей, — сказала як адрэзала. І пайшла, строгая, суровая, непрыступная.

Не хапіла слоў у настаўніцы, каб дайсці да душы кабеты.

Калі сустракала на вуліцы бацьку Васілька, нялюдскага, звераватага, заўсёды хмурнага, таксама хацела пагаварыць, хацела прасіць. Але памятала словы свякрухі:

— Не чапай ты яго. Хай яго зямля не прымае. Нічога ты не зменіш. Ён яе заўсёды біў. Усе ведаюць. Хлопцу горай зробіш. Гэты звер і яго біць будзе.

За што муж біў жонку? Ніхто ёй патлумачыць не мог. Быццам і прычыны ніякое не было. Працавітая, добрая. Нікому слова злога ніколі не сказала. Чужая. З далёкае вёскі. Сірата. Нікога яна не мела. У цёткі, што ўжо даўнавата памерла, гадавалася. Не ў ёй прычына была. У ім. Бацька Антонаў таксама звераватым быў. Усіх ненавідзеў. А жонку сваю баяўся. Затое сынам ой як даставалася. Падняў быў руку на жонку. А яна да братоў пабегла. Чацвёра мела, жылі непадалёк. Прыйшлі мужчыны ў хату, размаўляць не сталі. Так далі, так спаласавалі, што падняцца колькі дзён не мог. Зарокся з таго часу руку на жонку падымаць. Свякроўка пра тое настаўніцы апавядала.

Каляжанцы, настаўніцы біялогіі, прыязнай да яе жанчыне, расказала пра свой клопат. Не было для тае навіною, што ў сям'і Васілька творыцца. Яшчэ жудасны сакрэт паведаміла. Б'е муж Настулю нагамі. Ды каб ботам трапіць у ніз жывата. Асабліва звярэе, калі месячныя пачынаюцца. Ад фельчаркі з фапа каляжанка ведала, што прыходзіла Антоніха, лекаў прасіла. Мусіла паказаць, для чаго лекі, што з ёю. Дык усё там збіта, кроў засохлая, валасы зліпліся ў адзін страшны струп.

Было тое ў пачатку васьмідзясятых. Не які-небудзь даўні, дзікі час. Чалавек ужо колькі гадоў у космасе. А што той космас, тыя дасягненні, выгоды цывілізацыі, калі такое творыцца? І нічога нельга прыдумаць. Ужо і новае тысячагоддзе недзе не за гарою віднелася. Падавалася настаўніцы, што мусіць быць там, у новым часе, усё інакш. Настане ўрэшце светлая будучыня. Наш люд прывучаны да яе, як да самага сапраўднага, што ўжо быццам бы ёсць. Яна таксама любіла марыць пра будучыню. І на ўроках з дзецьмі часта пра тое гаварыла. І на гадзінах класных, выхаваўчых. Падалося ёй, што знайшла выйсце з бяды Васількавае. Прыдумала настаўніца:

— Ты вырасцеш і ніколі не будзеш біць сваю жонку. Будзеш любіць сваіх дзетак. Ты будзеш шчаслівым.

Ніколі больш не расказваў Васілёк пра сваю бяду. Часта заставаўся пасля ўрокаў. Разам ішлі дахаты. Яна жыла на суседняй вуліцы. Заўсёды гаварылі пра тое, што будзе. Пра добрае, шчаслівае. Які ён будзе дужы, які добры.

У апошніх, сёмым, восьмым класах зразумела настаўніца, што пачаў Васіль саромецца іхняга сяброўства. Пасля школы ўжо не чакаў яе. І дахаты разам не ішлі. Але ў школе заўсёды быў ветлівым, добрым, паслухмяным. І вучыўся, як і раней, няблага.

Прайшлі гады. Прайшло многа гадоў. Не забывалася настаўніца пра свой першы клас. Ведала ўсё пра ўсіх. Зрэшты, усе яны далёка не ад'ехалі. Адна дзяўчынка засталася ў роднай вёсцы. Ад яе часцей і даведвалася навіны пра астатніх. Васіль жыў у райцэнтры. Усё ў яго складвалася так, як яны калісьці марылі. Была каханая жонка, сынок. Праца добрая. Радавалася за яго, як за сваё дзіця. Бацькі Васіля памерлі, да шасцідзесяці не дажыўшы. Некалькі разоў сустрэла яго ў мястэчку. Не было ўжо між імі тае даўняе блізкасці, даверу. Страцілася. Асабліва апошнім часам. Ды што хацець? Ён стаў дарослым мужчынам, мае сям'ю, сваю справу. Праўда, пра сваё новае захапленне, пра паляванне, расказваў. Падавалася ёй, што саромеецца Васіль мінулага, балючага. І яна ніколі не нагадвала. Добра, што ў яго ўсё добра.

А тры дні таму жудасная вестка абляцела ваколіцу. Страляў Васіль у жонку. Ды ўцякла яна. Застрэліў сына. Дзесяць гадоў хлопчыку было. І сябе застрэліў.

Вярнулася настаўніца з пахавання. Пахавалі Васіля побач з сыночкам.

Як усё гэта перажыць?..

# Неба яе душы

## Светлай памяці Алы НІКІФОРСКАЙ (НІКІПОРЧЫК)



Галіна САМОЙЛА

Усё, што чытаю, параўноўваю са сваім: у эпасе — характары і падзеі, у лірыцы — душу. Якім балючым і часам жахлівым не было б для мяне жыццё, мая душа не перастае шукаць у ім шчасця. Яна ўжо разумее, што яно немагчымае ў глабальным сэнсе. Але ж хаця б у маленькім куточку, хаця б з адным чалавекам… не назаўжды, але ўсё ж на працяглы час…

Лірычная гераіня кнігі Алы Нікіпорчык (11.06.1957—21.05.2024) «Пад бахаўскую такату дажджу» (2007) усвядоміла для сябе, што шчасце на зямлі наогул немагчымае, на вялікі жаль. «Зямля спакутаваная болем», таму што недасканалы чалавек не можа зрабіць дасканалымі свае суадносіны з іншымі людзьмі і свае адносіны да ўсяго зямнога, ды і нябеснага. Яе душа — гэта «верх адзіноты» у самотным краі. Яна ўжо перапоўнілася болем, а ён усё плыве і плыве ў яе, адбіваючыся на твары. У «сугалоссі з любоўю — боль», радкі вершаў нараджаюцца, праходзячы праз «цёмны тунэль болю», «боль перамагае вечнасць». Вядома ж, як і ўсе, гераіня прагне шчасця, але ўжо мала верыць у яго магчымасць і, нават калі яно ёсць, не даверае яму, — яно ж такое на зямлі ілюзорнае. Сярод дажджынак-слёз — усяго толькі кропля радасці; сцішаны вясковы вечар зрабіў бясконца добрым увесь сусвет — але ж гэта:

*спадманнае*
*вечаровае*
*пачуццё!*

«…хачу сустрэчы ў свеце, дзе ўсё — расстанне і непаразуменне», — прызнаецца лірычная гераіня, смуткуючы ад таго, што яна хоча немагчымага. Бо душы «перасякаюцца дзеля таго / каб пакінуць раны…», а «новая сустрэча / таксама стане расстаннем». І зноў трэба будзе выжываць — лячыцца. Чым, калі нічога не дапамагае ўсур'ёз? Вехацем ландышаў з рынку, якія не могуць «перайначыць лёс»? Квеценню садоў, якая «белымі пялёсткамі раніць?» Золатам восені, якое «заўсёды балюча бачыць»? Найбольш — адстранёнасцю ад свайго болю:

*у кубак з гарбатай*
*зляцела сляза*
*агляну ўшыся вокал:*
*хіба мая!?*

Лірычнай гераіні патрэбны сінтэз, сугучча, суіснаванне ў разуменні, супадзенне ў настроях думак і пачуццяў — гармонія. Ёй амаль жахліва, што «ў гэтым свеце / усё паасобку / сляза і радасць / душа і цела / жыццё і каханне». Зямная ісціна заўсёды ў «залатой сярэдзіне», зямная мудрасць — ва ўменні знайсці гэтую сярэдзіну, ураўнаважыць там плюс і мінус жыцця і трымаць раўнавагу. Гераіня Алы Нікіпорчык гэтага не робіць. Яе пачуцці абвостраны да невыноснасці трываць іх, яна ўвесь час на краі: то ляціць у Неба, дзе толькі і знаходзіць паратунак: «калі што ёсць сапраўднае / то толькі там — у сапраўдным Небе…», то вяртаецца ў рэчаіснасць, дзе зноў яе чакае адчай: «але ж ізноў Госпадзі / сыплюцца мае зямныя слёзы / аб зямным чалавеку».

«Народжаная для болю», яна ідзе па зямлі, заўважаючы паўсюдна драматызм і трагізм жыцця, глыбока разважаючы аб іх прыродзе, назіраючы за супярэчнасцямі, з якіх яны вынікаюць. Але ў яе зямной журбе ёсць светлы сэнс — выснова сусвету для яе:

*прайсці праз боль —*
*вярнуцца — праз святло.*

Да сябе, да людзей, да шчасця, да цярпення, да разумення, да даравання — ачысціўшыся…

Сваё бачанне свету, думкі і перажыванні Ала Нікіпорчык выказвае ў форме свабоднага верша — верлібра. Ёсць меркаванні, што рыфма часам прымушае сказаць міжволі штосьці не тое. Яе адсутнасць дазваляе заўсёды знайсці самыя дакладныя словы для выяўлення душы, стварэння вобразаў, не абмяжоўвае плынь думак і пачуццяў. Дзякуючы свабоднаму парадку размяшчэння слоў у радку, можна акцэнтаваць самае важнае, паставіўшы яго паасобку, напрыклад, засяродзіцца на згубленасці ў часе свайго «я»:

*гэта я страціла час*
*ці гэта час страціў*
*мяне?*

У некаторых вершах ёсць рыфмоіды — зарыфмаваныя радкі. Неспадзяваныя, яны становяцца меладычным цэнтрам верша, яго высокай пранізлівай нотай, пасля якой рытм замаруджваецца, інтанацыя ідзе на спад:




*не адчайвайся*
*у гэтых словах няма адчаю*
*толькі чайкі ў іх крычалі*
*замоўкшымі галасамі*
*навек*

Паэтка выкарыстоўвае ў большасці абстрактна-асацыятыўныя тропы, ствараючы вобразы з вялікай доляй умоўнасці, выяўляючы свой непаўторны жыццёвы вопыт, свае лагічныя ланцужкі паміж з'явамі і прадметамі рэчаіснасці. Некаторыя вобразы мяне проста ўразілі:

*белыя палоскі снегу*
*нібы астраўкі мінулага часу*
*дзе я ніколі*
*не была*
*у расчыненую пустыню сусвету*
*вецер б'е*
*некранутыя дзверы*
*мае вокны — малыя рамы*
*каб патрапіць сонцу ў сэрца*
*на дне стагоддзя*
*невычэрпны*
*мой дзень*

Малюнак Алы Нікіпорчык — канкрэтны ці абстрактны — найчасцей складаецца з дэталяў, асацыятыўна звязаных паміж сабою ў адно цэлае:

*на змярканні святлее душа*
*і так ясна праступаюць у ёй*
*неба*
*воблакі*
*язмінавая нізка духмяных*
*пялёсткаў*
*і нават вершаваны радок*

Шмат вершаў пабудаваны на рэзкіх супрацьпастаўленнях, аздобленых, зноў жа, дэталямі: «нічога не аддаю / нават цьмянай рабінавай гронкі / усё аддаю / нават цьмяную рабінавую гронку».

Дзякуючы паўтору вобраз-сімвал рабінавай гронкі становіцца выпакутаванай меркай жыццёвых каштоўнасцяў душы паэткі, якая і тут не мудра-пасярэдзіне, а на балючых палюсах — усё ці нічога. Імкненне разглядзець кожную з'яву з двух яе супрацьлеглых бакоў прыводзіць паэтку да выкарыстання ў творчасці перакрыжаваных параўнанняў:

*дзьмухаўцамі-воблакамі*
*і воблакамі-дзьмухаўцамі*
*ахінуся*
*засланюся*
*паплыву*
*і не вярнуся*

Першыя два радкі гэтага верша дапамаглі мне «ўбачыць» нябачную душу лірычнай гераіні, адзетую ў лёгкі пух, — паміж небам і зямлёю. А наступнае дэталёвае пералічэнне зрабіла яе рухомай — далёка-далёка, у незварот.

У творах паэткі часам сустракаюцца нечаканыя канцоўкі, якія быццам не зусім вынікаюць з папярэдняга зместу і надаюць яму шырыню і глыбіню: «тэлефаную табе/адклікаешся/голасам/толькі».

Ала Нікіпорчык жыла дзеля творчасці, яе ачышчальных пакутаў і выратавальнай прасветленасці — гэта вынікае з яе вершаў:

*час вершаў — гэта час жыцця*
*астатні час жыццю*
*не належыць*

Мне гэта зразумела, бо і я ведаю, што нават пасярод няшчасця натхненне можа зрабіць чалавека шчаслівым.

# Ведзьма

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

— Дзякуй, дзяўчаты! І не будзем справу адкладваць у далёкую скрыню. Пакуль на вуліцы хаас і безуладдзе, самы спрыяльны час заняцца багацеямі.

— Экспрапрыяцыяй! — раптам вымавіла Лена Крымава і пачырванела. — Я чула, як бальшавікі на мітынгу казалі, што яны не рабуць капіталістаў, а экспрапрыіруюць нарабаванае. Прыгожае слова.

— Добра, — матнула рукой Марыя, — хай будзе так. Дык каго мы будзем экспрапрыіраваць?

Тут нечакана для ўсіх паднялася з месца Вольга Іванаўна.

— А чаго далёка хадзіць? Праз дом ад нас жыве мільянер Хадоркін Самуіл Якаўлевіч. Мае тры ювелірныя магазіны ў Пецярбургу і два ў Маскве. Я яшчэ ў яго бацькі дом прыбірала, потым у сына. Дык чула, што там ёсць піўніца, дзе Хадоркіны захоўваюць свае багацці, апроч тых, што ляжаць у банках.

— Выдатна, — падхапіла Ботвіч, — сёння ўвечары экспрапрыіруем Хадоркіных.

Ужо праз гадзіну план нападу быў гатовы: Вольга Іванаўна, як асоба гаспадару знаёмая, пастукаецца да Хадоркіна нібыта з нейкай важнай просьбай. Пакаёўка ў любым выпадку адчыніць. Тады дзяўчаты ўрываюцца ў дом, вяжуць гаспадароў і выпытваюць інфармацыю пра сховішча. Пасля таго Вольга Іванаўна з часткай грошай ад'язджае да сястры ў вёску пад Псковам, а банда падаецца на радзіму Боцвіч пад Мінск: у правінцыі і працаваць будзе прасцей, і паліцыі паменш.

А дзявятай гадзіне вечара ціхенька рушылі на справу. Вольга Іванаўна падышла да дзвярэй Хадоркіных і тузанула шнурочак званка. Дзесьці ледзь чутна заблямкала. Неўзабаве пачуўся голас пакаёўкі:

— Хто там?

— Гэта я, Вольга Іванаўна Смірнова. Я працавала тут. Маю важную справу да Самуіла Якаўлевіча.

Дзверы крыху прыадчыніліся, але яшчэ трымаліся на металічным ланцужку.

— Самуіл Якаўлевіч строга загадаў нікога ўвечары не ўпускаць, нават блізкіх сваякоў. Таму даруйце, Вольга Іванаўна, але я не магу Вас упусціць. Прыходзьце заўтра з раніцы, — са шкадаваннем у голасе прамовіла пакаёўка. У гэты ж момант Боцвіч, якая хавалася злева ад увахода, адштурхнула старую і зрабіла некалькі стрэлаў з рэвальвера. Пакаёўка мехам абвалілася на падлогу. А Марыя моцна нагой ударыла ў дзверы. Ланцужок блямкнуў, адчыняючы ўваход. Бандыткі кінуліся на другі паверх, дзе, па словах Вольгі Іванаўны, была спальня Хадоркіных. Нягледзячы на досыць ранні час, гаспадар з жонкай спалі. Дзяўчаты хуценька скруцілі іх і ўсадзілі ў крэслы.

— Дзе схаваны грошы і каштоўнасці? — запытала Боцвіч у перапалоханага гааспадара, які, здаецца, яшчэ не да канца ўсвядоміў, што адбылося.

— Сёма, пра якія грошы яна пытае? — звярнулася да Хадоркіна яго жонка, якая агоўталася хутчэй за мужа.

— Рыва, адкуль мне ведаць, чаго хочуць гэтыя жанчыны?

— Паслухайце, — спакойна загаварыла Боцвіч, праходжваючыся па пакоі, — рана ці позна, але вы ўсё роўна мне скажаце пра схованку. Толькі гэта будзе ўжо балюча. Вам яно трэба?

— Шаноўная пані, — заенчыў стары, — ну адкуль у мяне грошы? Ідзе вайна, усе збяднелі, ніхто нічога не купляе. Тыя пару рублёў, што мы з Рывай прыхавалі на хаўтуры, ляжаць у Балтыйскім банку. Вы можаце пайсці і ўзяць іх. А дома ў нас зусім пуста.

— Значыцца, не хочаце па-добраму, — раздумліва працягнула Ботвіч.

— А можа, і праўда, у іх нічога няма, — заступілася за палонных Крымава.

— Зараз пабачым, — адказала Марыя і стрэліла старому ў калена. Той узвыў ад болю.

— Што вы робі-і-це?! — заверашчала яго жонка і тут жа атрымала кулю ў ступню. Калі крыкі параненых пачалі заціхаць, Марыя зноў запыталася:

— Дык дзе схованка? Ці мне прымацца за другую нагу?

— Д'ябліца, — скрозь боль і слёзы прамармытаў Самуіл. — Люк пад сталом у гасціннай, ключ у мяне на шыі. І каб вам усім світанку не пабачыць.

Боцвіч усміхнулася, пакінула Смірнову вартаваць палонных, а з астатнімі пакрочыла шукаць схованку. Уваход у піўніцу і праўда быў у гасціннай, і, спусціўшыся ніжэй, дзяўчаты знайшлі досыць вялікую металічную скрыню, набітую царскімі чырвонцамі, залатымі ўпрыгожваннямі, каштоўнымі камянямі. Было крыху і папяровых асігнацый. Усё гэтае багацце яны пераклалі ў мяхі і падняліся наверх.



Фота Сяргея Плыткевіча

Старыя ўсё енчылі ад болю, хаця жаласлівая Лена паспела перавязаць ім раны.

— І чаго было адразу ж не сказаць? — запыталася Марыя і задаволена патрэсла перад гаспадарамі мехам. Тыя ў адказ толькі злосна зыркнулі вачыма.

— Што ж, нам час сыходзіць. Бывайце! — развіталася Боцвіч з Хадоркінымі і стрэліла ў кожнага па некалькі разоў. Дзяўчаты з жахам глядзелі на сваю сяброўку.

— Маша, ты звер... — прашаптала Мішына.

Боцвіч спакойна зірнула на яе, потым пераняла позірк на астатніх.

— А вы хацелі застацца з чысценькімі ручкамі? Каб грошыкі самі да вас у кішэнькі скочылі? Так не бывае. І яны б з вамі не цырымоніліся! Гэта вайна! А на вайне лішнія сведкі не патрэбныя. Усё, падабралі смаркачы! Таня, вылі з лямпы газу і падпальвай. Больш тут рабіць няма чаго.

Той жа ноччу дзяўчаты, даўшы добры куш праваднiку паштовага вагона, уладкаваліся ў цягнік «Санкт-Пецярбург — Мінск» і пакінулі «паўночную сталіцу». У Мінску Марыя купіла невялічкі двухпавярховы дом з магазінам жаночага адзення на першым. Тут і размясцілася так званая банда Боцвіч пад выглядам служачых і прадавачак магазіна. На другім паверсе былі жыллёвыя пакоі. Марыя — як ураджэнка Мінска — хутка аднавіла сувязі са сваімі былымі сябрамі і знаёмымі, праз якіх у прыватных размовах і атрымлівала патрэбныя звесткі пра мясцовых багацеяў. За год група Боцвіч экспрапрыіравала маёмасць у васьмі вядомых на ўвесь горад асоб.

Старшыня Мінскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў Карл Ландэр асабіста кіраваў пошукамі няўлоўнай банды, але чэкісты так нікога і не знайшлі.

21 лютага ў Мінск увайшлі кайзераўскія салдаты. У гэты ж дзень уся банда сабралася ў гасціннай.

— Дзеўкі, ёсць цудоўная магчымасць закончыць вайну з немцамі тут, у Мінску. Калі вы не супраць? — паведаміла Ботвіч.

Адказам стала прыцішанае «ўра!». Банда перапрафіліравалася на рабаванне нямецкіх складоў і дыверсіі на вайсковых аб'ектах. Час ад часу перад вачыма нямецкіх часавых і вартаўнікоў пачалі з'яўляцца сімпатычныя паненкі з мілымі ўсмешкамі на тварах. Гэта расслабляла іх увагу, яны ахвотна ўключаліся ў любоўныя флірты, пакуль не атрымлівалі ўдар нажа ў сэрца ці кулю ў скронь. А калі суботнім вечарам два нямецкія супрацоўнікі штаба палкоўнік Герц і палкоўнік Шліфен у суправаджэнні дзвюх гуллівых паненак выйшлі з рэстарана «Еўропа» і зніклі назаўсёды, бандай зацікавіўся сам камандуючы 10-й арміяй Фалькенгэйн. Па горадзе быў вывешаны ягоны загад:

«У горадзе павінен быць парадак. За кожнага забітага ці параненага нямецкага салдата ці афіцэра будуць растраляныя першыя дзесяць жыхароў. Хто ўкажа на месцазнаходжанне жаночай банды, атрымае 5000 марак узнагароды».

Але неўзабаве немцы былі вымушаны пакінуць горад, так і не выкрыўшы банду.

У сакавіку 1921 года Марыя Боцвіч зноў сабрала сваіх дзяўчат разам.

— Паненкі, ці не падаецца вам, што час мяняць нашу прафесію? Багатых практычна не засталося, а бедныя нас не цікавяць. Думаю, у кожнай ёсць грошы на першы час. Таму давайце падумаем, чым зоймемся.

Аказалася, што такая ж думка круцілася ў галаве многіх, але страшна было разыходзіцца ў розныя бакі пасля перажытага. Ды што зробіш? Жыццё ёсць жыццё. Трое вырашылі з'ехаць у Амерыку, яшчэ дзве вярнуцца ў Петраград, на радзіму.

— Ну а ты, Маша? — запыталі яны сваю кіраўнічку.

— А я застаюся ў Мінску, — усміхнулася Марыя. — Буду чакаць вас тут.

— Дык мы яшчэ сустрэнемся?! — здзівіліся сяброўкі.

— Абавязкова! — запэўніла Боцвіч. — Мы ж з вамі больш родныя, чым сёстры. Давайце, дзеўкі, дамовімся: раз на год дасылаеце мне на галоўпаштамт свае адрасы да запатрабавання на імя Арыны Пятрэнка. Гэта маё новае імя. І калі каму спатрэбіцца дапамога, усе ўсё кідаем і едзем дапамагаць. Клянёмся?

— Клянёмся! — прагучала ў адказ...

Праз два дні ў Мінскі гарадскі аддзел ЧК зайшла прывабная маладая жанчына і, адсядзеўшы невялікую чаргу каля дзвярэй з шыльдачкай «Ольскі Ян Калікставіч, старшыня», пераступіла парог кабінета.

— Добры дзень, Ян Калікставіч! — прывіталася яна і па-мужчынску працягнула руку. Ольскі, збянтэжыўшыся ад нечаканасці, механічна пацiснуў яе. Марыя села ў крэсла насупраць.

— Мяне завуць Арына Пятрэнка. У мінулым фельчар 2-га батальёна 17-а пяхотнага палка. У 1917 годзе разам с батальёнам самакатчыкаў штурмавала Зімовы палац у Петраградзе. Затым перабралася ў Мінск, працавала ў бальніцы. Зрэшты, вось мае паперы. Хацела б цяпер працаваць у вас.

Ольскі ўважліва разглядаў наведвальніцу. Штосьці ў ёй прыцягвала да сябе і ў той жа час адштурхоўвала. Але адчувалася вялікая ўнутраная сіла наведвальніцы.

— А чаму менавіта ў нас? — нарэшце запытаў Ян Калікставіч. — Вы ж медык...

— Ненавіджу буржуяў, ненавіджу мярзотнікаў, што рабуюць простых рабочых і гвалцяць безабаронных жанчын. Ненавіджу несправядлівасць! — знешне спакойна адказала Арына, а ў вачах палымнеў вар'яцкі агонь.

— Але ж у нас давядзецца і страляць і, магчыма, нават забіваць. Ды і Вас могуць забіць.

«Пятрэнка» крыва ўсміхнулася:

— За мяне не перажывайце: я столькі пабачыла, што на траіх хопіць. І ратавала, і забівала. Ну а калі мяне заб'юць, дык і шкадаваць няма каму. Адна я на свеце...

І прынялі Арыну Пятрэнка малодшым упаўнаважаным Мінскага ЧК. А ўжо праз паўгода па горадзе пра яе гаварылі не інакш, як пра д'ябла ў спадніцы. Яна заўсёды была першай там, дзе стралялі, дзе была рызыка, і шчыра закісала над руціннымі справамі, якія патрабавалі развагі, логікі, роздуму. Яе ненавідзелі бандыты і пабойваліся калегі. Ды яна і сама трымала з усімі дыстанцыю.

Праца і смеласць Арыны не засталіся незаўважанымі, і ў 1929 годзе яна была пераведзена ў Маскву ў цэнтральны апарат НКУС. Цяпер Арына займалася выключна палітычнымі справамі, выбіваючы паказанні практычна з любога арыштаванага. Звалі яе «Ведзьма».

Па загадзе І. В. Сталіна ў 1936 годзе быў створаны асобы аддзел № 9. У яго задачы ўваходзіла выкраданне ў краінах свету новых ваенных і прамысловых тэхналогій, а таксама іх аўтараў, членаў сем'яў. Даручылі аддзел Арыне Пятрэнка. «Ведзьма» і тут справілася на выдатна, не шкадуючы нічыіх жыццяў дзеля выканання задання. Кроў лілася ракой з абодвух бакоў, але гэта нават імпанавала Сталіну, які неўзабаве ўзнагародзіў Арыну ордэнам Чырвонага Сцяга. Яна была ўлюбёніцай Вялікага кормчага. Ёй прадказвалі вялікае будучае...

Раніцай 6 кастрычніка 1937 года ў кабінет начальніка дзявятага аддзела НКУС Арыны Пятрэнка ўвайшла прыбіральшчыца і — скамянела каля ўвахода: за сталом сядзела, апусціўшы галаву з вялікай дзіркай у скроні, гаспадыня кабінета... Калі праз дваццаць хвілін сюды прыйшоў сам наркам Яжоў у акружэнні світы, яны знайшлі на стале разгорнутай асабістую справу нейкай Таццяны Піліпаўны Сідаровіч, у дзявоцтве Мішынай, арыштаванай два дні назад па падазрэнні ў шпіянажы на карысць панскай Польшчы. Праз усю старонку асабістай справы рукою Пятрэнка было напісана: «Бывай, Танька! Больш нічым дапамагчы не магу». Выкліканы начальнік Бутырскай турмы, увесь белы ад страху перад вялікім начальствам, далажыў, што ўчора ў часе пяцігадзіннага допыту арыштаванай Сідаровіч старшы маёр Пятрэнка застрэліла названую асобу, труп загадала адвесці на могілкі і пахаваць. Сама таксама прысутнічала пры гэтым.

— Ведзьма! — працадзіў скрозь зубы Яжоў.

# Гістарычныя аповеды



Станіслаў СУДНІК

## Апошні бярсерк

Яны — гэта передавы, адборны гуф войска князя дайнаўскага Трайдзеня. Ён — баярын Нямір, камандзір гэтага гуфа, якому князь Трайдзень загадаў пераняць ворага на левым беразе Нёмана і затрымаць, пакуль ён сам з асноўнымі сіламі нанясе ўдар недзе з іншага месца. Гуф перайшоў Нёман цераз брод каля Бяліцы і з паходнага шыхту выцяў па ворагу адразу, не лічачы, не разбіраючы, дзе хто. Ім удалося падманным адступленнем зацягнуць ворага ў рэдкі сасновы лес. Высокія сосны і амаль поўная адсутнасць падлеску давалі дайнаўцам магчымасць біцца разрэджаным шыхтам, што яны вельмі добра ўмелі. Ворагі ж да такога бою былі нязвычныя. Іхняя шчыльная маса таксама мусіла падзяліцца на мноства людскіх струменяў, якія цяклі паміж дрэвамі, але ў бой уступалі па чарзе. Ворагаў было шмат, дайнаўцы неслі страты, але вытрымалі. Вораг выбіваў з бою, адкаціўся за шырокую паляну і зшыхтаваўся ў тры вялікія калоны. Цяпер можна было разабрацца, дзе, хто і колькі.

Першымі злева стаялі татары. Яны не моцна лезлі ў лес і страты мелі невялікія. Пасярэдзіне былі валынцы. Гэтым у лесе добра дасталося, многа пакінулі там навечна, але і ў полі было яшчэ шмат. Валынскі князь быў галоўным завадатарам гэтага паходу і сабраў вялікае войска. Справа стаялі крыжакі. Тыя біліся звычайна не адзіным шыхтам, а асобнымі дзідамі. Дзіда — рыцар, збраяносец, адзін-два лучнікі або кнехты — разам чалавек шэсць-восем. Некалькі рыцараў засталося ў сасняку, але асноўная сіла была ў шыхце.

Дайнаўскі гуф выглядаў адносна іх усіх мізэрна. У адкрытым баі ім нічога добрага не лёсіла, яны павінны будуць палегчы ўсе. І прычына была не толькі ў колькаснай перавазе ворага, але і ў баявой традыцыі. Дайнаўцы маглі адходзіць, абходзіць, манеўраваць толькі да пачатку бою. Калі бой пачынаўся, яны ішлі толькі наперад, ніколі не адступалі, ніколі не здаваліся. Сярод іх не бывала параненых: або жывы і б'ецца, або мёртвы і ляжыць. Нямір падзяліў гуф на дзве часткі: левы фланг — лучнікі, якія павінны былі адбіваць татараў, і правы — вершнікі, якія мусілі супрацьстаяць крыжакам. У цэнтры супраць валынцаў стаяў сам Нямір, стаяў адзін, пеша:

— Будзем атакаваць. Я пайду паперадзе, вы — за мной крокаў праз 40 — 50. Нічому не здзіўляйцеся…

Далей пачалося нешта мала зразумелае. Нямір закруціўся на месцы і знік, з'явіўся — зноў знік, з'явіўся за крокаў 20 наперадзе.

— Пайшлі! — прагучала каманда аднекуль здалёк.

Гуф вычакаў указаныя 40 крокаў і павольна рушыў насустрач немінучаму.

Татары першыя скмецілі лёгкую здабычу — адзінокага воіна ў полі. З дзясятак вершнікаў кінуўся ўперад. Некалькі ўпалі ад стрэлаў дайнаўскіх лучнікаў, астатнія гізавалі да Няміра. Пасыпаліся стрэлы, але яны пралятали скрозь баярына, як скрозь пустое месца, і ўтыкаліся ў зямлю. Пустое месца знайшлі і кінутыя дзіды. Татары развярнуліся, паказалі спіну, і трапныя дайнаўскія стрэлы звалілі яшчэ некалькіх.

А наперадзе рабілася нешта незразумелае. Нямір яшчэ не дайшоў да валынцаў, а на іх шэрагі наляцеў нейкі віхор. Усё вакол завіравала. Адзін за адным русічы падалі пасечаныя і паколатыя, падалі самі па сабе, бо не было відно нікога, хто б мог быць прычынаю гэтага. Нямір яшчэ толькі набліжаўся. Як ён можа так біць і секчы на такой адлегласці, ніхто не разумеў. Ды і ці ён гэта? Тады хто? Некалькі валынскіх коннікаў наляцелі на Няміра і сутыкнуліся самі з сабой. Там, дзе ішоў дайнавец, было… пустое месца.

Крыжацкі комтур быў чалавекам адукаваным. Далёкі нашчадак слаўных вікінгаў, ён у дзяцінстве шмат чуў скандынаўскіх сагаў, але сам бачыў такое ўпершыню, дакладней, не зусім бачыў, а адчуваў.

На полі быў бярсерк. Бярсерк вышэйшага стану, душа якога ўмела падзяліцца на дзве часткі. Адна частка заставалася ў цвёрдым целе, якое станавілася нікому нябачным і якое выдавала толькі цень, а ў хмурны дзень не выдавала нічога. Другая частка была ў бачнай абалонцы. Абалонка не давала цені, бо была празрыстая для прамых сонечных промняў, але чалавечае вока ўспрымала яе за сапраўднага, паўнавартаснага чалавека.

Цяпер на полі ўсе бачылі абалонку. Цвёрдае цела крышыла валынцаў. Русічы не ведалі скандынаўскіх сагаў і не разумелі нічога, таму ў жаху пачалі падавацца назад і пабеглі.

Комтур заўважыў, што той дайнавец, якога ён бачыў, павярнуў галаву ў іхні бок, а значыць, нябачны бярсерк хутка можа аказацца побач. Комтур пераждаўся і павярнуў каня. Крыжацкі аддзел ірвануў з поля. Простыя крыжакі таксама нічога не разумелі.

Праз некаторы час браты-рыцары сабраліся вакол комтура, які патлумачыў ім, у чым справа.

— Але такога не можа быць. Трэба вяртацца і дабіць паганцаў!..

— Я ведаю, што такога не можа быць, — адказаў комтур, — але яно было. Няхай там паганыя татары разбіраюцца з паганым бярсеркам, а нам трэба быць пільнымі, бо самога Трайдзеня на паляне не было. Сляць віжоў ва ўсе бакі і быць гатовымі да бою!

Татары бачылі Няміра, думалі, што бачаць. Дайнаўцы таксама бачылі, бачылі, што ён зранены і вельмі стомлены, але кіруецца ў татарскі бок. Трэба было дапамагаць. Правае крыло дайнаўцаў развярнулася, бо крыжакоў ужо не было, і пачало абходзіць сваё левае крыло, якое трымала татараў на адлегласці палёта стралы. Ад з'яўлення цяжкай дайнаўскай конніцы татарам радасці было мала. У першай жа сутычцы яны страцілі некалькі дзясяткаў воінаў, а ў дадатак ззаду нейкая невядомая сіла валіла іх з сёдлаў аднаго за другім. І тататары таксама рванулі з поля. Паход праваліўся.

Нямір, змучаны і зранены, сядзеў на зямлі. Дайнаўцы нясмела падышлі да яго, баючыся дакрануцца.

— Не бойцеся, мяне тут няма, — прагучаў голас Няміра аднекуль здалёк.

— Баярын, а ты дзе? Ты вернешся да нас?

— Не ведаю. Каб вярнуцца, трэба вельмі шмат сілы. Пакіньце мне вады, яды, чыстага палатна, каб перавязаць раны. Баярын Някраш, вядзі гуф да князя, распавядзі ўсё, як было. Мы загад выканалі, ворага затрымалі, нават больш — страты ў нас невялікія. Мяне не шукайце. Скажыце крыве і хрысціянскаму святару, няхай памоляцца за мяне. Мне будзе патрэбна дапамога ўсіх багоў…

***

Праз паўгода ў двор князя Трайдзеня прыйшоў абарваны, зарослы і схуднелы стары. Варта не хацела яго пускаць, але выйшаў баярын Някраш і пазнаў Няміра. Ён быў жывы. Някраш нясмела дакрануўся да Няміра.

— Баярын, гэта ты?

— Я, і я — зноў чалавек.

Пазней, калі за святочным сталом сабраўся ледзь не ўвесь гуф, адзін воін спытаў:

— Баярын, а ці змог бы ты ўсё гэта паўтарыць?

— Не ведаю. Хрысціянскі Сын Божы Хрыстос і то ўваскрасаў толькі адзін раз, дык ён жа — Сын Божы, а я — просты чалавек.

— Дык ты ж і не паміраў.

— Ну… гэта як паглядзець…

## Бацькоўскае дабраславенне

Пан Ліпніцкі меў чатырох сыноў, моцна іх любіў, бо гадаваў адзін, таму зрабіў звыклую жыццёвую памылку, якую робяць многія бацькі: ён пры жыцці падзяліў паміж сынамі сваю маёмасць.

Старэйшаму пакінуў усю зямлю, каб не дзяліць на кавалкі і не множыць беднату. Бо сорак дзесяцін аднаму — гэта сорак дзесяцін, а падзялі на чатырох — і па дзесяць у кожнага, — лічы, ужо бедныя.

Другому сыну пакінуў кузню і грошы. Будзе добрым кавалём — не прападзе.

Трэцяга адправіў вучыцца на ксяндза, бо на каго ж яшчэ можа вучыцца сын шляхціца? Там дасць Бог сыну багатую парафію, то і някепска будзе.

Азірнуўся — а тут яшчэ малодшы, а ён ужо ўсё раздаў.

— А табе, — кажа, — засталося толькі бацькоўскае дабраславенне…

Колькі важыць тое дабраславенне, ніхто не ведаў, але ніхто і не пытаўся.

Падзяліў маёмасць, і жылі яны далей, як і жылі: старэйшы больш увіхаўся на зямлі, другі працаваў у кузні, трэці вучыўся, а малодшы ўсім дапамагаў, нават будучаму ксяндзу мог гарбаты падаць, калі той у час вакацый прыязджаў дадому і заглыбляўся ў кнігі.

Усё ішло добра і мірна, аж пакуль не з'явілася ў наваколлі ватага разбойнікаў, якая наязджала на шляхецкія двары, рабавала, а бывала — і забівала тых, хто супраціўляўся. Павятовы маршалак кідаўся з аддзелам шляхты па слядах ватагі, але павет вялікі і лясісты, шукаць у ім разбойнікаў — што тую іголку ў стозе сена.

Аднойчы пад вечар прымчаўся да пана Ліпніцкага сусед і сказаў, што яго малы хлапчук быў у Вомшары і нарваўся на разбойнікаў. Тыя яго не бачылі, а ён пачуў, што заўтра раніцай наедуць яны на двор пана Ліпніцкага. Каб дакладна ведаць, дык варта было б сабраць шляхту ды папільнаваць, але ж і разбойнікі не дурныя: пачуюць рух і затояцца, або выскачаць у іншым месцы.

— Хай будзе, як будзе, — сказаў пан Ліпніцкі. — Я не адзін, нейкі час пратрымаемся, пакуль прымчыць шляхта з засценка.

На тым і расталіся. Сусед паабяцаў, што таксама будзе напагатове.

— Ну што, сынкі, давядзецца паваяваць.

— Не, бацька, не магу я ваяваць. Ты аддаў мне зямлю. А заб'юць мяне — каму яна дастанецца? Разбойнікі ж маёй зямлі з сабой не панясуць. Ну парабуюць, ну спаляць, адбудуемся. Таму я збіраюся і еду ў засценак, перабуду ў дзядзькі.

— Мне таксама ваяваць не выпадае, — сказаў другі. — З маёй кузні ўзяць асабліва няма чаго, кавадла яны ж не пацягнуць. Спаляць — адбудуюся, а заб'юць, дык і ўсё прападзе: і грошы, і кузня.

— А мая бацькаўшчына — у Божых уладаннях. Там ёй нічога не пагражае. А заб'юць мяне заўтра — і прапала ўся мая навука. Ды і які з семінарыста ваяка?

У малодшага пан Ліпніцкі і пытацца нічога не стаў, бо што яму тут бараніць, калі ягонага тут нічога няма? Уздыхнуў бацька і пайшоў збірацца на вайну, а сыны наладавалі вазы, забралі буйнейшую жывёлу, а для дробнай паадчынялі хлявы, каб магла разбегчыся, і падаліся ў засценак.

Ноч прайшла спакойна, а на досвітку пан Ліпніцкі апрануў свае старыя гусарскія барвы, надзеў панцыр і шолам, узяў рушніцу, пісталі, піку, шаблю. Хацеў надзець і крылы, ды выйшла незадача. Падчас доўгага ляжання без патрэбы моль пабіла пер'е, адны шпянькі засталіся. Апранаць такія крылы — не ганарова.

Ледзь пашарэла, пан Ліпніцкі сеў на свайго старога гусарскага жарабца і выехаў на мяжу з боку Вомшару. Спыніўся і пачаў чакаць. Ціха, аж чуе нехта едзе з боку яго двара. Пад'язджае малодшы сын. На кульгавай кабылцы, са старой паляўнічай стрэльбай, з сякерай за поясам і сахаром у руках.

— А ты чаго тут? Што ты бараніць сабраўся? Я ж табе нічога не пакінуў…

— Яно то так, бацька. Не пакінуў, але абяцаў дабраславенне. А я таго дабраславення не бачыў і не чуў.

— Дык чым і як цябе дабраславіць, сынок?

— Дабраславі мяне, бацька, не спалохацца, не ўцячы з гэтага поля, каб кабылка ад страху не панесла. Дабраславі, бацька, быць тут з табой.

— Ну, за кабылку я спакойны, не панясе. А цябе дабраслаўляю на ўсё, пра што просіш. А яшчэ дабраслаўляю на доўгае і шчаслівае жыццё.

— Ну, гэта ўжо як выйдзе, — адказаў сын і паказаў на ватагу чалавек у дваццаць, якая выязджала такі з Вомшару.

Атаман разбойнікаў некалі ведаў пана Ліпніцкага і пазнаў яго.

— А дзе ж твае старэйшыя сыны, пан Ліпніцкі? — спытаўся.

— Ды ім неяк не да вайны, часу не маюць, дабро хаваюць, каб вам не дасталося.

— А ты што?

— А мне хаваць няма чаго і траціць няма чаго, я ўсё раздаў сынам, а яму, — паказаў на малодшага сына, — таксама траціць няма чаго, бо яму я нічога не даў.

— Ну, тады трымайся!

Атаман махнуў рукой, і чацвёрка разбойнікаў кінулася наперад.

Два стрэлы звалілі першых двух. Піку і сахор прынялі астатнія два.

— Жывы? Трымай! — бацька перадаў сыну адзін пістоль. — Яшчэ двух паложым, а там — як будзе…

Але атаман не даў каманду на наступную атаку.

— Іх нехта папярэдзіў. У двары мала чым пажывімся, і цяпер на стрэлы наляціць шляхта з засценка. Гайда ў засценак, туды, дзе нас не чакаюць…

Ватага знікла ў Вомшары.

Пан Ліпніцкі з сынам злезлі з коней і падышлі да забітых разбойнікаў, каб забраць зброю, зняць лепшую вопратку ды палавіць коней.

Здымаючы рыштунак у аднаго з разбойнікаў, знайшлі ладную машну, скураны мяшочак, поўны залатых і срэбных манет.

— Гэта табе на доўгае і шчаслівае жыццё, — сказаў бацька і аддаў мяшочак сыну.

Неўзабаве наскочыла шляхта з мястэчка. Пан Ліпніцкі перадаў войту зброю разбойнікаў і двух коней. Двух пакінуў сабе, справядліва патлумачыўшы, што яго стары жарабец і кульгавая кабылка нічога ўжо не вартыя. Пра грошы ні бацька, ні сын не абмовіліся.

— Дадому не паедзем, — прапанаваў бацька сыну. — Там нашага нічога няма. Няхай твае браты гаспадараць самі. Паедзем да князя. Я даўно маю на воку невялікі фальварак. Папросім прадаць.

***

Прайшло дабравата гадоў. Браты Ліпніцкія выбраліся ў Нясвіж. Была бездараж, і браты паехалі акольнай дарогай. Недзе на паўдарозе згледзелі новы, дагледжаны фальварак. Спыталіся ў пастуха, як называецца. Адказаў: «Ліпніцкія». «Ого! — здзівіліся браты. Трэба заехаць…»

Сустрэць іх выйшаў сам гаспадар, іхні малодшы брат.

— Гэта ўсё тваё?

— Маё.

— Дзе ўзяў?

— Купіў.

— За што?

— За бацькоўскае дабраславенне.

— Выходзіць, абдзяліў нас стары…

— Ну, гэта — як сказаць, бо бацькоўскае дабраславенне — не зямля, не грошы, не кузня, гэта — Божае заступніцтва і ўдача ва ўсім. Яго трэба не толькі атрымаць, яго трэба ўмець прыняць і скарыстаць на добрую справу…

*2024*

# Блуканцы



Антаніна ХАТЭНКА

***

*У карунках мяккіх снегу*
*ў садзе сонным памяць лéгла.*
*Што пад белым днём сасніць*
*за мяжою мітусні?*
*Можа, як збягала далеч,*
*а мы мроі ў ноч скідалі*
*і ў абдымках пры вагні*
*слухалі, як стынь звініць.*
*Як за брамаю ў бары*
*лесавік наноў тварыў,*
*бы з нічога, белы свет,*
*суграючы зоркі дзве,*
*што зляцелі да вакна —*
*да жыцця, агню, да нас.*
*Што прасіліся да рук*
*у сцямнелую пару.*
*Мо сасніць далёкасць-памяць,*
*за вятрамі, за снягамі,*
*дзе ў аблоках, бы ў калысцы,*
*зоркам спалася прачыста.*
*З той далёкасці з табой*
*мы й зляцелі ў ціхі бор.*
*Тут з мяцеліц лесавік*
*дзіўны свет калядна звіў.*

*Як цяпер той дом жыве,*
*дзе начуюць зоркі дзве,*
*з неба ўпаўшы, пры агні,*
*пакуль памяць ранне сніць?*

*Абуджаючы тут памяць,*
*кружым, зоркі дзве, над снамі*
*мы між саду й далягляду,*
*скуль ідуць, як снег, КАЛЯДЫ.*
*Скуль глядзіць шчаслíва Бог,*
*як злятаюць зоркі ў бор*
*над вузламі дзён, вуглямі,*
*дзе чуйнуе з долу памяць.*

**14. 12. 2023**

***

*Чутна пад вечар, як дыхаюць*
*гронкава бэзы.*
*З той пракаветы, скуль зоркі*
*спадаюць, і думкі, і сны.*
*Дзе да сустрэчы з табою —*
*самоты пранізлівай бездань.*
*Дыхаюць бэзы з далёкай вясны.*
*Як з дрымушчаў лясных.*

*Чутна апоўначы, як расцякаюцца*
*водары траўня.*
*Так расцякліся па вечнасці*
*цішы й пяшчоты мяды.*
*Бэзы плывуць, як ладдзя,*
*філітова ў празрыстае ранне.*
*Быццам вянкі, варажбітна*
*ўкружаюць яры і груды.*

*Дыхаюць бэзы з травы, з рабаціння*
*стракатых стакротак.*
*З памяці ў прышласць. Над кладкай*
*хістлівай, дзе блудныя мы —*
*быццам забытыя ў часе*
*і лёсе бязжальна сіроты,*
*быццам без вокнаў дамы,*
*без агню і беяз ветру дымы.*

*Горнецца бэзавы цёплы,*
*як некалі нашы крананні —*
*белы, ружовы, барвяны, блакітны —*
*да рук аксаміт.*
*Мройныя ўборы маёвыя —*
*згадваеш? — ты апранаў мне.*
*Толькі цяпер ці пазнаем*
*удома сябе мы саміх?*

*Ведаеш, хмарыць і хмарыць*
*над вясной надзеяй расстанне.*
*Нам бы прабіцца на Волю,*
*як бэз, праз платы і хмызы!*
*Боль пад ласкаваю бэзавай*
*хваляй гаруча растане.*
*Роспач растане ў свячэнні*
*на вейчыне дрогкай слязы.*

*Вось асыпаюцца долу віхуры*
*пялёсткаў духмяных.*
*Горка на вуснах маіх і тваіх*
*саладзее пылок.*
*Дыхаюць прыцемкі бэзаў —*
*і далеч люботна туманяць.*
*Дзіўна вяртаецца ўсё, што*
*нядаўна прыгадкай было.*

**30. 05. 2023**

## Блуканцы

*Мы чужыя, чужыя, чужыя*
*і сабе, і шляхам, і радзіме.*
*Так у выраях мы затужылі*
*што дамоў*
*павяртаемся ў зім'е.*

*А ў дарозе так цёмна,*
*так цёмна.*
*Нават зоркі схаваліся быццам.*
*Поруч ноч бліскавіц вераценá.*
*Як да родных парогаў прыбіцца?*

*Па ўсім краі язміны, язміны*
*парашуцяць з-пад неба прылецяў.*
*Знемагае скрыгастае зім'е...*
*Час дадому ляцець нам,*
*ляцець нам.*

*Столькі водараў, колераў, гукаў,*
*столькі болю ўгарнула радзіма!*
*Адзімець бы, чужоту адхукаць —*
*і ніхто нас у нас не адыме.*

**17. 06. 2022**

## Водгул

*Як мяды, гады. Чым далей —*
*гусцей.*
*Над агнішчам дым згаслых*
*дзён-гасцей.*
*На гары вятры ўскрыляць —*
*не дагнаць.*
*А ў старым двары клыпае вайна.*

*Як вадой, мой дом*
*забыццё знясе.*
*З-пад ільдоў — слядоў*
*ланцужкі ў расе.*
*А з-пад ног у ноч — думка,*
*бы камéнь:*
*тут вайне ў вакно, мабыць,*
*век грымець.*

*Быццам на плыту,*
*мы ўсе разам тут.*
*Дзе плывуць плыты,*
*чараты растуць.*
*Там, у чаратах, вусцішна*
*плытам:*
*з даўніны вайны хвошча грымата.*

*Праз кусты — плыты. І наскрозь —*
*вайна.*
*Тын, як тыл, застыў.*
*Гул вайны ў званах.*
*Шлях — адна вайна.*
*Хоць кульгавая.*
*Праўду давідна спавіваю я.*

*А вайна і ў снах насцігае нас.*
*З дня, як з тхлані дна,*
*нацяганыя*
*б'юць і п'юць жыццё*
*цмокі-подзвігі,*
*што з вайны, як з ніў,*
*паўзыходзілі.*

**03. 07. 2024**



Карункі працы Вольгі Паўленкі

## Мост дыяментавы

*Вечар, трывогу чаборам запіўшы,*
*кропне ў кілішкі шаўковае цішы.*
*Ледзь скалыхнецца азерца свячэння.*
*Можна спакою-напою яшчэ мне?*

*Як за шаўковаю цішаю поўнач*
*страхаў дзяцінных раскудлае воўну,*
*чыста, празрыста і я па-дзіцячы*
*на Дыяментавым мосце заплачу.*

*Свет, бы падлетак,*
*разгублены ў росце,*
*на Дыяментавым модзіцца мосце.*
*Праўда, што ў чоўне*
*апошняе ночы*
*шчасціць прыплыць*
*аж куды мы захочам?*

*Мабыць, вунь там,*
*дзе даспельвае поўня*
*маладзіковыя мроі, спакойна,*
*човен апошняй начы ад пагосту*
*ўнебіцца над*
*Дыяментавым мостам...*

*Год мой, зануранаы*
*сумна ў мінуласць,*
*ведаеш, схоў я з табой адамкнула.*
*Стуль дыяментава*
*ў цішы шаўковай*
*светляць дарогу нам думкі і словы.*

*Схоў адамкнула, дзе казка старая*
*ведае шлях у бяскрай да раю,*
*дзе ў крышталёвых*
*імгненнях-кілішках*
*грае напой чаравальнае цішы.*

*Дружа мой, чуеш ты гэтае гранне*
*радасці раненай, гоенай раннем?*
*Збыласць і прышласць —*
*штодзённасці госці*
*на Дыяментавым сходзяцца мосце.*

**30. 12. 2023**

## Йоль-паварот

*У змерзлым свеце —*
*мяккая аблога.*
*Яшчэ за Сонцам ночыць Каляда.*
*Мігціць прагал*
*між Усяго й Нічога.*
*Ды ў белаце ні знаку не відаць...*

*Праз белату глядзіць*
*з Нябеснай столі*
*зажураны станчалы веташок,*
*як завіруха танчыць перад Йолем,*
*каб час ажыў з нямоты — і...*
*пайшоў.*

*...Тут час ляцеў. Як тая завіруха.*
*Як веташок, у задуменне плыў.*
*Бывала цёмна, безнадзейна глуха,*
*бы ўся прастора ўбілася ў вуглы.*

*Бывала, здані сноўдалі па ля́дах.*
*Змыкала сцюжа подумкі і сны.*
*Але цяпла надыхвалі ў Каляды*
*дух палявы, балотны і лясны.*

*Цяпер, як дых, як дух*
*над сонным полем —*
*калядны шэпт снягоў,*
*калядны бом.*
*П'юць глеба й Неба*
*з ночваў белых Йоля*
*сонцазваротны горкі эль нагбом.*

**19. 12. 2022**

## Здалёк

*На чужой далёкай выспе*
*я дарогу сабе высплю.*
*І пайду. Як ноч, пайду.*
*Прападу, нібы ў ваду.*
*Мабыць, потым. Толькі потым*
*у забыўлівых цянётах*
*растрывожу ўласны след*
*у зляжалым шэрым тле.*
*І згадаю, прыгадаю,*
*хто я ёсць і скуль такая.*
*Дзе ж чакае мяне дом?*
*За далёкаю вадой?*

*За вадою за далёкай*
*салавей вярнуўся цёхкаць*
*у чаромхавых калысках.*
*Недасяжна. Блізка-блізка.*

*Дзе з травой шаптаўся ясень,*
*дзе на раду род збіраўся —*
*і як сонца, печ запальваў.*
*...Стуль мне ўслед*
*ківаюць мальвы.*

*Прыкладу руку да сэрца.*
*Тут, са мной, мой Край, здаецца.*
*Ды прасторы схаладалі.*
*Студзіць думкі далеч, далеч...*

**31. 01. 2022**

## Шлях адплаты

*Мой белы лес, мой лес крылаты,*
*здалося, з неба ўслед глядзеў,*
*як учарнелы шлях адплаты*
*валокся ўнурана за дзень.*

*Валокся ў цемры ачмурэла,*
*дзе ўсё празорана маўчыць,*
*што колісь тут, нібыта, грэла,*
*душу данінай беручы.*

*Аддай, што ўдома не пакінуў.*
*Што мáе споўніцца — аддай!*
*Маны і здрадніцтва мякіну*
*ссыпала ўноч на шлях жуда.*

*Ссыпала нечысць жар і сажу.*
*Злівала кроў на шлях, як мул.*
*Так лютаваў на трон падсажань:*
*каму — гібець, канаць — каму.*

*Так упіваўся болем злыдзень*
*за часам чорнае чумы.*
*...Няўжо з-пад страху*
*Воля ўзыдзе*
*і голас верне ў свет нямы?*

*Няўжо з вар'ятняў і з-за кратаў,*
*з праклёнаў, помсты і магіл*
*вызвольна зрыне шлях адплаты*
*ахвяр і карнікаў сцягі?*

*І паскідаюць латы каты.*
*І злосць адслоніцца за дзень.*
*Вось толькі светлы лес крылаты*
*ўсё будзе жальна ў дол глядзець...*

**11. 02. 2024**

***

*Развяселіцца лотаць*
*па вясне, па дрыгве.*
*Так хацелася лётаць,*
*а жывеш, як плывеш.*
*Так бязлітасна хвалі*
*набягаюць. Як час.*
*...Дзе мяне пахавалі,*
*вербы светла маўчаць.*
*Радасць песціць і плакаць...*
*Дзён туман расхінаць...*
*Дзякуй, Свеце мой, дзякуй —*
*мой званар і млынар.*
*Жыцці нашы, як зерне:*
*з неба ў глебу — і ў млын.*
*Шлях укленчыў, бы вернік,*
*звон пачуўшы з імглы.*
*Налітое калоссе*
*білі ўсмак на таку.*
*Што па мне засталося,*
*Свеце мой, адлякуй!*
*Валачобіць Вялікдзень*
*у абдоймах Вярбы.*
*...Бог насустрач мне выйдзе.*
*Дзе ж дагэтуль ён быў?..*

**12. 04. 2023**

# Зямная місія



Віктар САЗОНАЎ

Жыў чалавек, жыў сабе, жыццю радаваўся час ад часу, збольшага наракаў на лёс ды ўзяў і памёр… Здурнець можна. Тут жыў — а тут ужо няма. Вось яшчэ ўчора прэтэнзіі прад'яўляў жонцы, што сняданак перасолены, агрэсіўнічаў з суседзямі, пагражаў нейкаму незнаёмцу на паркоўцы, а сёння ўжо нікога нічым не нярвуе…

Пры жыцці то надта ж быў даставучы. А цяпер ляжыць сабе ціхенька, як разведчык у засадзе, нікога ні ў чым не папракае, заўвагаў не робіць, жыць іншых не вучыць ды і сам не спрабуе.

Вось бы такі лагодны пры жыцці быў, то іншыя людзі яшчэ больш плакалі б пасля яго смерці. Можа, усялякія цуды здараюцца. Але ж не. Пры жыцці такім лагодным не быў. Шмат каму пячонкі папсаваў. Багата крыві папіў. І тое яму не так, і гэта не гэтак. Як шыла ў азадку. А цяпер люба-міла глянуць. Як усё ж смерць многіх прыхарошвае…

Ну, пра нябожчыка то можна гаварыць або добра, або нічога. Таму і пра гэтага лепш памаўчаць.

Бо вось цяпер ён даў дуба, як кажуць у народзе. Ну, раней так казалі, «дуба ўрэзаў», калі труну пераважна з дубовых дошак рабілі. Не эканомілі ранейшыя людзі на нябожчыку, не такія скупыя былі, як сённяшнія. Ды і дубраў было багата. А што дабру прападаць?

А цяпер людзей памірае надта ж ужо шмат, то дзе на ўсіх дубоў набярэшся. Ды і дорага з дуба. Ён сёння не нашмат менш за золата каштуе. Лепш прадаць, калі ў каго лішні ёсць. Таму ўсё часцей кажуць не «дуба ўрэзаў», а больш па сучаснаму: «ласты склеіў» ці «адпакутаваў ужо», або «адсвістаўся». Хоць гэты нябожчык пры жыцці і не свістаў асабліва. Тут няма чаго нагаворваць на чалавека толькі таму, што ён не можа адказаць належным чынам. Таму прыстойныя людзі казалі проста «памёр» або «адышоў у лепшы свет». Ну, неяк так.

Нічога асаблівага і экстраардынарнага ў гэтай з'яве няма. Людзі паміралі і да яго. І некаторыя сцвярджаюць, што будуць паміраць і пасля. Увогуле, ёсць версія, што ўсе звычайныя людзі рана ці позна паміраюць. Звычайныя. А ён і быў звычайным. Хоць версія не даказаная, бо шмат яшчэ жывуць, і па іх вобразу жыцця аніяк не скажаш, што збіраюцца хоць калі гэты свет пакінуць. Ды і не пра гэта цяпер.

Вось і Сямён Раманавіч Сілкоўскі, так яго звалі, значыць, новапрадстаўленага, урэшце патрапіў у Нябесную Канцылярыю. Ну не адразу, вядома ж. Лятаў недзе там па тым свеце, з некім сустракаўся. Там увогуле гісторыя дастаткова заблытаная і доўгая. Таму лепш у тыя падрабязнасці не лезці. Задоўга тлумачыць. Пачнём адразу з Канцылярыі.

Сядзіць, значыць, на табурэтцы, з непрывычкі вочы вылупіў, як савецкая лялька, а насупраць яго за белым працоўным столікам сакратарка. Ладная такая, прыгажосці неверагоднай. Сямён Раманавіч пры жыцці толькі марыў пра такую, але не сустракаў аніразу. Маладая, статная, усё пры ёй, рухі лагодныя, погляд ласкавы…

Ды ўсяго і не пералічыш. Феміда. Ці нешта падобнае.

І, значыць, то ў кампутар зазірне сваімі глыбокімі прывабнымі вачыма, то па друкарскай машынцы нешта пастукае перламутравым манікюрам, то ў паперах пачынае капацца дагледжанымі пазногцямі. І ні словам не парушае роздум Сілкоўскага. Цуд, а не жанчына. Калі цуды бываюць, вядома ж.

Сямён Раманавіч ужо і падымаўся з табурэткі, каб агледзець яе з усіх бакоў, і за спіной стаяў, і над душой вісеў. А жанчына нават брывом не вядзе. Як галаграфія якая.

— Ніколі такіх прыгожых жанчын не бачыў, — нарэшце перарваў маўчанне мужчына. — Каб ведаў, што тут такія ёсць, то раней сюды наведаўся б, — выдаў па-мужчынску прымітыўны жарт з элементамі непрыкрытага вульгарнага флірту.

— Ну, гэта вам так хочацца мяне бачыць, — спакойна адказала сакратарка. — Тут, на гэтым этапе, пакуль што бачыцца ўсё так, як ваша сутнасць фантазіруе. Калі б вы сакратара Нябеснай Канцылярыі ўяўлялі б салідным мужчынам ці старцам з німбам над галавой, то так і было б. Але ж вы ўяўляеце мяне вось гэтак, як прывабную мілавідную жанчыну. Ажно сліну пусцілі, разам са смаркачамі. Аднаго не магу зразумець: чаму для сядзення вы ўявілі табурэтку. У вас што, фантазіі не хапае на лепшае?

— Ды не, фантазіі ў мяне хоць адбаўляй, — збянтэжана адказаў мужчына і напружыў мазгі.

Табурэтка імгненна ператварылася ў лаўку. Сямён Раманавіч сам здзівіўся, нібы залез у ванну з вадой, а там не вада, а піва. Такія лаўкі ён толькі ў дзяцінстве бачыў. На вёсцы. Пасляваенныя, з няроўных дошак-саракоўак. Пазней іх гаспадары на дровы пасеклі, як толькі ў продажы табурэткі пачалі з'яўляцца.

Сакратарка толькі галавой пакруціла ў бакі, нібы носам мух адганяла. Але мух то і не было. Нічога не было. Толькі лаўка.

— Скажыце, — Сілкоўскі вырашыў спытацца пра важнае, — а як там у мяне з далейшым? Куды мяне?

— Ну, нарэшце, — выгукнула сакратарка. — А то я ўжо думала, што пра галоўнае вы забыліся. Зараз пагляджу.

І яна пачала корпацца ў паперах тонкімі пальчыкамі з свежа нанесеным яркім і па-ранейшаму перламутравым манікюрам. Манікюр пераліваўся ў яе вялікіх выразных вачах, а ад працы жанчына стала выглядаць яшчэ больш прыцягальна.

— Ды ўсё ў вас павінна быць добра, — нарэшце задуменна прабубніла яна. — Не ўсе паперы ў парадку, замоўчваць гэтага не буду. Ёсць праблемы і з адносінамі з людзьмі, і з алкаголем, і з самім сабой… Ой! Усялякай тут хрэновіны хапае. Не джэнтльмен вы, даражэнькі мой, далёка не джэнтльмен, мякка кажучы. Няма з чаго тут браць прыклад наступным пакаленням. Я б з такім у разведку не пайшла. Ды і нікуды не пайшла б. Але вось галоўнае ў вас у норме. Сваю Зямную Місію вы выканалі, а гэта ўжо добра. Там Высокая Камісія вельмі любіць, калі гэты пункт закрыты станоўча. На іншае могуць і вочы заплюшчыць. А вось Зямная Місія — гэта о-го-го! Да гэтага пункта там сур'ёзна ставяцца. Аж занадта.

Сілкоўскі ўздыхнуў з палёгкай, ажно лаўка ператварылася ў мяккую канапу, а перад носам з'явіўся столік са шклянкай газаванай вады.

— Калі вам больш даспадобы «Кока-Кола» ці любімы напітак вашага дзяцінства «Крэм-Сода», то толькі так падумайце, і газіроўка стане ім, — патлумачыла сакратарка.

— Не-не, — замахаў рукамі мужчына. — Газіроўка самае тое.

Але пры гэтым газіроўка імгненна ператварылася ў напітак «Байкал», а мяккая канапа зноў у табурэтку.

Сакратарка толькі ўздыхнула і зноў паганяла перад носам неіснуючых мух.

— Дык, кажаце, сваю Зямную Місію я ўсё ж выканаў? — перапытаў мужчына і адхлябнуў са шклянкі вялікі глыток.

— Выканалі, — пацвердзіла жанчына. — Вось і ў кампутары насупраць графы «Місія» ў вас стаіць плюсік. Так што памылкі быць не можа. У нас тут з кампутарнай абслугай усё на найвышэйшым узроўні. Зусім нядаўна такі моцны спецыяліст прыбыў ад вас, геній. Запрацаваўся там за сваім кампутарам, увайшоў у глыбокую дэпрэсію, сэрца не вытрымала, і вось ён з намі. Усё наладзіў: і праграмы, і антывірусы. Працаваць стала адна асалода.

— Вось жа ж добра, — прастагнаў Сілкоўскі. — Я і не сумняваўся, што выканаў тую місію сваю. Але ж, ведаеце, думаю, можа хто тут наблытае што. Тлумач пасля, што ды як.

— Не-не-не, — запярэчыла сакратарка. — Тут у нас ніхто не наблытае нічога. З гэтым строга. Дзеля смеху то могуць пажартаваць. Раней такое практыкавалі. Але пасля таго, як адзін кліент ледзьве другі раз не памёр ад страху, такія жарты забаранілі. Галоўнае супраць.

— Ну вось і добра, — выдыхнуў Сямён Раманавіч. — Перспектывы ў мяне нармальныя, кажаце. Зямную Місію сваю я выканаў. Я гэта і так ведаў. А можна яшчэ пытанне задаць?

— Задавайце.

— Скажыце, а што за місія ў мяне была на зямлі?

Сакратарка падняла на Сілкоўскага здзіўленыя вочы, а вакол таго, адкуль не вазьміся, пачалі лётаць мухі.

— Вы што, не ведаеце сваёй Зямной Місіі?!!! — выбухнула яна так гучна і выразна, нібы гук адкарэктавалі адмысловай апаратурай.

І не вядома, чаго ў яе словах і інтанацыі было больш: здзіўлення, абурэння, ці прагі пакарання.

— Ды не, вядома ж, што ведаю, — спалохана падняў далоні Сямён Раманавіч, і яго вочы сталі круціцца ў розныя бакі. Прычым левае ў правы бок, а правае ў левы. — Проста апошнім часам столькі нечаканых падзеяў адбылося, што я крыху прызабыўся. Разгубіўся неяк, заблытаўся. Яшчэ не звыкся. З нерваў гэта. З кім не бывае?

— А-а, — з разуменнем прамямліла сакратарка. — Для вас вечна ёсць нечаканасцю, як вы паміраеце. І калі вы ўжо прызвычаіцеся, што не вечныя на зямлі і рана ці позна да нас прыйдзеце. Ну добра, зараз пагляджу, што ў вас там была за місія…

Яна засяродзілася на маніторы кампутара, а Сілкоўскі адзначыў, што мухі некуды зніклі, як ад дусту. Затое аднекуль з'явіўся кот. Руды. У палоску. Тоўсты. Прыгожы. Ну не такі, як сакратарка, але дастаткова мілы. Ён пад'ехаў да століка на чыгуначным вагоне без адной бакавой сценкі і паставіў перад носам мужчыны сальніцу, поўную солі. З'езд гэтак жа нечакана. І моўчкі. Зрэшты, акурат тут нічога незвычайнага няма. Такія паводзіны для катоў уласцівыя.

— Ну вось, знайшла, — радасна паведаміла сакратарка. — Памятаеце, як пасля службы ў войску вы вярталіся дахаты на цягніку?

— Памятаю.

— І ў вагоне-рэстаране за суседнім столікам сядзелі прыстойныя людзі і абмяркоўвалі нешта важнае. Адзін з іх папрасіў, каб вы перадалі за іх столік сальніцу. Бо ў іх не было чым пасаліць ежу. А на вашым століку стаяла ажно дзве.

— Ну, прыпомніў. Я тады перадаў яму адну. Навошта мне дзве?

— Ну вось, — радасна ўсміхнулася сакратарка і выключыла кампутар. — Гэта і была вашая Зямная Місія…

Нейкі час Сілкоўскі стаяў нерухома, як будучы помнік на яго магіле. Знікла і табурэтка, і іншыя прадметы, як і не было іх. І нічога новага не з'яўлялася. Толькі ўсё тая ж сакратарка сядзела ў спакуслівай позе на кампутарным крэсле з колцамі, а вось самога кампутара ўжо не было. Як і друкавальнай машынкі, і нават папераў і століка.

— Пачакайце хвілінку, — запярэчыў мужчына. Сэрца ў яго грукала, як у жывога. Хоць ён добра ведаў, дзе знаходзіцца і што так быць не павінна. — Вы хіба жартуеце?! У мяне такая нікчэмная місія можа быць?! Ні за што не паверу! Я нармальны чалавек, перспектыўны, а місія ў мяне — соль перадаць нейкаму асталопу! Ды і гэты анекдот, што ў аднаго мужыка місіяй было перадаць сальніцу, я чуў яшчэ, калі быў жывы. Гэта ж казка. Прыбаўтка такая, агульнавядомая. Гэта ж няпраўда! Гэта ж проста анекдот!

— Гэта толькі пацвярджае сказанае, — спакойна адказала сакратарка. — Вам яшчэ пры жыцці ў выглядзе анекдота была падораная інфармацыя пра вашу Зямную Місію. Каб вам лягчэй жылося. Каб вы ведалі, што вам трэба выканаць.

— Не-не-не, — Сямён Раманавіч патрос пальцам перад носам сакратаркі з такой крутой амплітудай, што некалькі разоў стукнуў па сваім носе.

Нос жа сакратаркі застаўся некранутым, як і ўсе астатнія прывабныя часткі яе постаці.

— Не трэба мяне разыгрываць, — працягваў аспрэчваць Нябеснае Рашэнне пра сваю Зямную Місію Сілкоўскі. — Гэты анекдот чулі тысячы і нават мільёны людзей! Як вы гэта растлумачыце?! У іх што, таксама місія соль падаваць усялякім ашавуркам?!

— Усё правільна, — паціснула плячыма сакратарка. — А вы думаеце, што такая місія толькі ў вас аднаго? Ды не. Усё так і павінна быць. У мільёнаў людзей такая ж місія: перадаць сальніцу каму-небудзь вартаму. А што, вы думаеце, толькі вам аднаму соль падносіць важным асобам дазволена? Вы занадта высокай думкі пра сябе.

— А я што, на нічога не варты?! — пакрыўджаны мужчына перайшоў на крык, які ўжо быў больш падобны на карканне параненай вароны. — Што ў вас тут робіцца?! Хто мне такую місію выдзеліў?! Я патрабую судовага разбіральніцтва! Я вас па судах зацягаю! Я патрабую маральнай кампенсацыі! Мяне абдзялілі ў зямным жыцці! Вы са мной да канца свету не разлічыцеся. У людзей місіі як місіі! Адны імперыі будуюць, другія цэлыя цывілізацыі! Ну хоць вайну якую выйграць, ці што! Але ж не перадаць сальніцу няведама каму, можа, якому язвенніку, якому той солі і ўжываць нельга, бо дактары забаранілі?!! Я што, па-вашаму, больш ні на што не здатны?!

Заканчэнне на стар. 7 »

# Зямная місія

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

— Ды супакойцеся вы, — ажно перахапіла дыханне ў сакратаркі. Ажно грудзі сталі ўздымацца, як на гэтым свеце. — І чаго вы такі нярвовы? — развяла яна далоні ў бакі. — Хто б мог падумаць, што вас такая місія не задавальняе. Вы на сябе паглядзіце. Вы што, рыцар у срэбных латах? Якую яшчэ вам можна было даручыць місію? Я б і такой не даручыла. Вы ж акрамя салдацкай табурэткі так нічога і не сфантазіравалі. Я і так здзіўляюся, што вы змаглі яе выканаць, тую місію, і перадаць сальніцу каму трэба, не разбіўшы яе і не парэзаўшы пры гэтым сабе рукі.

— Хопіць мяне зневажаць!

— Я і не думала вас зневажаць. Сядайце і выкладвайце сутнасць вашых прэтэнзій. Я ўсё ўладжу.

Перад сакратаркай зноў узнік стол з кампутарам і паперамі. Друкарскай машынкі ўжо не было. За Сілкоўскім з'явілася тая ж табурэтка. Толькі цяпер мужчына заўважыў, што гэта сапраўды салдацкая табурэтка, якой яго білі па азадку яшчэ ў войску пасля першай паловы года службы. Звычай такі быў у Савецкім войску, калі старaслужачыя «дзяды» пераводзілі маладых «духаў» у разрад «палонікаў». Доўга тады азадак балеў. Хіба ажно да таго моманту, як, едучы на дэмбель у цягніку, некаму там соль перадаў...

— Ну вось, — працягвала сакратарка. — Вы казалі: вам імперыю падавай. У нас ёсць праграма такая, і мы на нейкі час можам вас вярнуць на зямлю для выканання гэтай місіі. Прыкладам, на тэрыторыі былой імперыі Аляксандра Македонскага сёння робіцца халера ведае што. І ўяўляеце, анікому да гэтага няма справы! Там войны, здзек, галеча... Тая зямля даўно чакае свайго героя. Але ніхто не можа выканаць гэтай місіі. Усе адмаўляюцца. Баяцца, што не здужаюць. Ну а калі не выканаюць, то вы ведаеце, як да гэтага ставіцца Высокая Камісія. Вось і не рызыкуюць.

— Чаму?! — здзівіўся Сілкоўскі.

— Ды не хочуць паміраць пакутніцкай смерцю ды цярпець боль і цялесны, і душэўны на Зямлі, а пасля яшчэ аддувацца за нявыкананую місію пасля пакідання Зямлі.

— А што, гэта абавязкова? Я маю на ўвазе пакуты, боль...

— Ну, верагоднасць вельмі вялікая. Тая місія акурат пакуты і боль прадугледжвае. Ну і пакутніцкая смерць там ідзе ў наборы, і шмат якіх яшчэ непрыемнасцяў. Там, у тым рэгіёне, лёгка нічога не атрымаецца. Ды і сам Аляксандр Македонскі, як вы памятаеце, памёр маладым, і я б не сказала, што лёгкай смерцю.

— Не. Мне такое не падыходзіць, — адмахнуўся Сямён Раманавіч. — Ды па праўдзе кажучы, мне справы няма да тых Іранаў, Іракаў, Афганістанаў, Турцый і ўсяго такога. Мне б што з Еўропай звязанае прапануйце.

— О-о-о!!! Я пачынаю вас паважаць, — з захапленнем выгукнула сакратарка, і яе грудзі падняліся яшчэ вышэй.

Нават на Зямлі не ва ўсіх так атрымліваецца.

— Еўропа для нас самае балючае месца, — задэкларавала яна. — Бо там толькі знешне пакуль што адносны спакой. Насамрэч там робіцца халера ведае што. І таму герою, які возьме місію ратаваць старэнькую Еўропу, смерць у адзіноце імператара Напалеона будзе недасягальнай марай. І не спадзявайцеся. Ён будзе марыць нават пра смерць Жаны д'Арк, але і гэтага не атрымае. Залёгка. Гэтага чалавека будуць зняслаўляць, пераследаваць, зневажаць і, урэшце, хутчэй за ўсё, прыб'юць як скаціну, і цела не знойдзецца.

— Ну не. Мне такога не трэба. Можа што ў Амерыцы важнае зрабіць трэба?

— Ды знойдзецца важная справа дзе заўгодна. Толькі і там, каб выканаць сваю місію, вам давядзецца рызыкнуць жыццём, не менш. Ну а пакуты, здзекі, перажыванні і іншыя праблемы глабальнага і персанальнага характару ідуць у жыццёвым камплекце. Чым больш будзеце жыць, тым больш нажывеце. А рызыкаваць там так не хочацца. Усё ёсць, жыві і радуйся, а тут нейкая рызыка, за якую прыб'юць. А калі Зямной Місіі не выканаеце, то тут вам будзе кепска. Я ж вам казала пра Высокую Камісію. Цярпець не могуць, калі ў раздзеле «Місія» стаіць «Не выканаў».

— Я падумаў, што не хачу. Я ўжо выканаў адну місію, і на гэтым давайце і скончым, — махнуў рукой Сілкоўскі.

— Як так?!! — крыкнула сакратарка так рэзка, што Сямён Раманавіч, каб не быў мёртвы, атрымаў бы разрыў сэрца ад спалоху. — Я ўжо запусціла праграму вяртання на Зямлю.

— Не хачу!!! — зароў, як паранены зубр, Сілкоўскі. — Я ўжо выканаў місію! Я перадаў соль! З мяне хопіць. Колькі можна здзекавацца з чалавека. Я выканаў місію, а мяне зноў... Я вас засуджу! Я вас па судах зацягаю!

— Ужо позна нешта мяняць, — націснула сакратарка на клавіятуры нейкі гузік. — Ды вы і самі былі незадаволеныя ранейшым і настойвалі на сапраўднай ганаровай місіі.

— Я згодны на сваю старую місію!!! — гарлапаніў Сілкоўскі, нібы ашалелы вар'ят з трэцяй палаты псіхбальніцы, дзе ляжаць выключна адны імператары Калігулы. — Я гатовы перадаваць соль колькі трэба і каму трэба!

Але яго кудысь пацягнула нейкая сіла, як некалі, калі, п'яны ў драбадан, зачапіўся штанінай за прычапны крук нейкай машыны, а шафёр гэта заўважыў толькі праз тры кіламетры. Добра, што зіма была. Снег не даў сцерціся ўсяму патрэбнаму, а толькі порткі прадраліся да таго месца, па якім у войску табурэткай білі. Ды і дарога была не асфальтная. Як добра, што ў Беларусі не спяшаюцца з тым асфальтам, асабліва на вёсках. Сямён Раманавіч гэта тады ацаніў.

Ачнуўся Сямён Сілкоўскі ад свайго ж уласнага крыку. Крычаў як рэзаны. Вось наколькі дазваляла анатомія яго галасавых звязак, настолькі і роў. Добра, што ў кватэры нікога не было, а то аглухлі б усе. Акрамя цешчы. Тая і так глухаватая, то можа, наадварот, слых прарэзаўся б.

Нейкі час Сілкоўскі лётаў па кватэры як вар'ят, шукаў пяты кут. Але кватэры будуюць стандартныя, і пяты кут знайсці не кожнаму ўдаецца. Для гэтага адмысловая практыка патрэбная. Вось і гэтаму не ўдалося.

Урэшце мужчына крыху супакоіўся, прысеў і пасля доўгага роздуму прашаптаў:

— Сон! Дык гэта быў усяго толькі сон! Зрэшты, трэба праверыць.

Ён выйшаў у двор, завярнуў за вугал дома і там паміж дрэў сустрэў свайго суседа, кончанага алкаголіка, з нейкім незнаёмым мужыком. Па выглядзе з яшчэ больш кончаным алкаголікам.

— Ты гэта... — заікаючыся, звярнуўся ён да суседа, кончанага алкаголіка. — У нашым доме апошнімі днямі ніхто не паміраў? Не ведаеш?

— На вялікі жаль, не, — цяжка ўздыхнуў той.

— Чаму на вялікі жаль?

— Бо каб хто памёр, то былі б пахавіны. І мненалілі б.

— Ты дакладна ведаеш, што ніхто не паміраў? Гавары! І я не паміраў?! Прызнавайся, я не паміраў?!

— Ды ты што, Раманавіч, — спалохана пралепятаў той. — Перапіў, ці што? А казалі, ты кінуў.

— Ды не, — крыху супакоіўся Сілкоўскі. — Усё нармальна. А вы тут чаго сядзіце?

Сусед, каторы кончаны алкаголік, цяжка ўздыхнуў і растлумачыў:

— Мы тут нейкай вадкасці злілі з цягніка ўначы. Яна яўна на спірце. Тэхнічнае паскудства, але алкаголь у сабе ўтрымлівае. Вось выпіць хочам. Але гадасць такая паскудная, што ў рот не лезе. Мы яе туды, а яна назад. Ужо паўлітра так бяздарна сапсавалі. Закусіць бы трэба, каб тое паскудства назад не лезла. Агурок то ў нас ёсць, але ён надта ж прэсны. Такі не дапамажа. Трэба пасаліць. А дахаты па соль баюся зайсці. Жонка не выпусціць. Можа ты, Раманавіч, сходзіш, прынясеш нам солі?

— Што?! — У Сілкоўскага вочы пачалі пашырацца...

— Я кажу: зрабі людзям добрую справу, — канкрэтызаваў сусед, кончаны алкаголік. — Схадзі дахаты і прынясі нам солі.

— Так, Раманавіч, схадзі, — цяжка прастагнаў другі мужык, які яшчэ больш кончаны алкаголік. — Прынясі нам соль.



Фота med.medgis

# Ачмялелая душа



Фелікс БАТОРЫН

### Строма

Вецер здзімае пясчынкі
са стромы жвіровай.
Плынь вымывае пясчынкі
са стромы жвіровай.
Строма пад ветрам
і плынню мяняе абрысы,
Страчвае нешта
і штосьць адкрывае ў сабе.

Стромкія людзі
адкрытыя жорсткім стыхіям.
Вецер эпох з іх
штодня выдзімае цяплінкі,
Часу рака
падмывае іх плынню імклівай.
Падаюць стромы.
Балоты спакойна ляжаць.

### Кніга

Чытаю кнігу я.
У ёй часы і лёсы,
І сённяшні заход,
і заўтрашні ўзыход,
І ўсіх зямных істот
жывое шматгалоссе,
Слязы гаючай соль
і пацалунку мёд.

Апошнім промнем дня
я закладу старонку
І вокладкаю том,
як векам, зачыню.
І адыду да сну.
І вінаграду гронку,
Нібы ліпнёвы дзень,
бурштынную прысню.

І буду чуць праз сон
я гук твайго дыхання.
А заваконны свет
напоўніць наш пакой
Баладай цвыркуноў
і голля калыханнем,
І плёскам ціцыні,
народжаным ракой.

Каб нас не разбудзіць,
гаворачы на мігі,
Сузор'і паплывуць
у высі, як заўжды.
А раніцай ізноў
вярнуся я да кнігі
І выпушчу прамень,
закладзены туды.

***

Калі мігрэнь сціскае скронь,
А ў горле даўкі прысмак чаду,
Ты памакрэлую далонь
Падстаў з даверам лістападу.

Дарадзіць ён тваёй журбе,
Душы знямоглай дасць адхланне
І пакладзе ў руку табе
З адвечнай ісцінай пасланне.

Чырвоныя па залатым,
Сплятаюцца пражылкі ў словы.
Так проста ўсё ў пасланні тым,
Што зразумець ты ўжо гатовы...

***

Апошнія словы
апошняй сустрэчы.
Наперадзе холад і змрок,
Чужыя аблічча
і марныя рэчы,
Слязьмі затуманены зрок.
Злучаючы, доля
плануе разлуку,
Рыхтуе, лагодзячы, боль.
Мы шчасце сваё
спасцігаем праз муку,
Як слодыч — праз горкую соль.

### Паэт і кароль

Меў паэт пашану рэдкую —
Доля шчодраю была:
Сілкаваўся ён аб'едкамі
З каралеўскага стала,
Карыстаўся ён абноскамі
З каралеўскіх ног і плеч,
А пісаў ён адгалоскамі
З Іх Вялікасцю сустрэч.

Ды хоць клікалі вялікасцю,
У нікчэмнасці манарх
Слынны быў дрымучай дзікасцю,
Голаў меў ён у штанах.
Як нашчадка вераломнага
Венцаносца яд забіў,
Каралёву дурасць помнілі,
А паэта свет забыў.

***

У багатай дыядэме галава,
Са смарагдамі карáлі,
бранзалеты...
Каб не бачыць пышна
ўбраныя шкілеты,
Не раскопвайце магілы харства.

***

Адпаўзаюць снягі пад навіслае
голле ялін.
Прабіваюць сатлелае лісце
зялёныя стрэлы.
Над ракою ад рання грымяць
крыгаломныя стрэлы,
І, клякочучы, ўспорвае неба
акрылены клін.

Так бывала ўсе вёсны.
Так будзе апошняй вясной.
Калі мецьму навекі
павекі стамлёныя змежыць,
Правязіце мяне непрасохлай
дарогай лясной
На сялянскім вазку, перш чым зробіце
ўсё, што належыць.

### Гуны

Пах магільны, гул чыгунны,
Землятрусны цяжкі крок...
«Вас адкуль прынесла, гуны?» —
«Мы тутэйшыя, браток!»

### Натоўп

Натоўп — гэта тысяча адзінот
І тысяча неразуменняў,
Што мае адзін на ўсю тысячу рот
І цэлую крушню камення.

***

На поплаве па ранішняй траве
Распырсканая сонечная радасць,
А з малака, што па рацэ плыве,
Стрыжы разынкі зухавата крадуць.

...Разынкамі ў таплёным малацэ
Збівала мама кашаль мой застудны.
Калі ж збягала кропля па шчацэ,
Яна казала: «Пырснула са студні...»

Чым больш я зазнаю ў сваім жыцці,
Тым большая туга мая па маме.
Схацеў я студню маміну знайсці,
Але яна згубілася ў тумане.

### Ход рэчаў

Калі ідзе смяротны бой
За шчасце, роўнасць і братэрства,
Геройства плаціць галавой,
А трыумфуе крыважэрства.

***

Гуляе бэз, ні вока ані бока
Не гледзячы,
па травеньскіх садах.
Галёкае і блізка, і далёка
І ранішні, і вечаровы птах.

Раскоша ў свеце зухам і гарэзам,
Паблыталіся потым і спярша.
Спявае салаўём і пахне бэзам
Між красак ачмялелая душа.

# Зіма над горадам



Васіль ДЭБІШ

***

У нудзе непрыглядная, адчай
Захлынуўся б я —
выжыць не змог
Без падтрымкі іх: аберагаюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.

Калі цемра кладзецца густая
На крыжы непазнаных дарог,
Шлях мой зорна тады
асвятляюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.

Не сканаць аднаму ў паняверцы.
Нінічым ні палон, ні астрог,
Бо навек пасяліліся ў сэрцы
Дзве святыні — Радзіма і Бог.

### Гандляр

Базар. Зіма над горадам.
У твар завея б'е.
Гандляр, маленькі, згорблены,
Прысмакі прадае.

Жабрак паблізу. Галадна.
Працягнута рука.
Глядзіць звысоку, з гонарам
Гандляр на жабрака.

Пагардліва адвернецца,
Не дасць ані граша...
Бы мёд, спакусу велічы
П'е скваліная душа.

### Русалка

У змроку халодным
нямотнага дна,
Туманным, дрымучым,
глыбінным
Русалка жыла маладая адна.
Адна сярод пусткі і стыні.

Над ёю свяціліся зорак агні,
А вечар прасторы
разгушкваў.
І сніліся ёй залацістыя сны:
Высокія дрэвы і птушкі.

Хацелася ёй цеплыні
і святла,
Пяшчоты людской і кахання.
Рукамі ўзмахнула яна,
паплыла
З цямрэчы ў блакітнае ранне.

«Загінеш, — раўла
вадзяная сцяна. —
Чакае там смерць,
не пяшчота...»
«Мне б сонейка ўбачыць, —
шаптала яна, —
А потым — ці важна,
што потым!»

### Звыроднасць

Кубло змеяў у купіне.
Перапляталюцца,
шыпяць.
Ніяк не могуць
успомніць, хто яны?!.
Кубло змеяў у купіне.

### Страх

Не бачыш нічога,
ды ўсё-ткі ідзі...
Чуеш,
у вецці зялёным
пагойдваецца птушка.
Недзе паблізу
звер прытаіўся.
Не бойся яго.
Гэты звер —
толькі ў нашых галовах.
Заўжды непрыкметнае тое,
што дзеліць святло і цемру.
Неспазнанае палохае нас
і страх нараджае.
Абрастаючы шкарлупіннем,
скажоным робіцца свет:
зоркі ноччу ярчэюць, растуць,
днём раптоўна знікаюць,
як мары людзей,
як нязбытныя мары Айчыны...
Ідзі.
Бачыш:
знаходзячы ў цемры дарогу,
не баючыся ўпасці,
месяц плыве...

### Маланка

Мільгае маланка ў небе,
высвечвае сцежкі-дарожкі...
Ляціць праз ноч
проста ў маё сэрца.
Яна можа параніць,
забіць мяне.
Не хаваюся ад яе:
імклівая, жудасная,
ды вабіць да сябе,
не баіцца цемры.
Узіраюся ў неба.
Над Радзімай
гарыць продкаў агмень.

### Іранічнае

Я па БТ уключаю навіны.
Надта жахлівую бачу карціну:
Крызіс навокал,
тайфуны, цунамі,
Мор у Пекіне,
сутычкі ў Панаме.
Пухнуць ад голаду
бедныя грэкі...
Скрозь парушэнне
правоў чалавека.
А ў Беларусі цудоўнае ўсё
(Уравень жызні расцёт і расцёт)!
Гэтак праз год узрасце
да нябёсаў.
Дзіўна, чаму ж я і голы,
і босы?
Можа, я дурань,
мо недарэка!?.
Дапамажыце мне, бедныя грэкі.

### Адрачэнне

*Прысвячаецца*
*Васілю Гадульку*

...Ён быў паэтам.
Ён пакінуў каханку
(век дакарала:
«Што піў?» і «Дзе грошы?),
вяскоўцаў (якія дапытваліся:
«Ці жывеш, ці памёр?..»).
Ён пакінуў свой дом,
які замінаў вольна дыхаць,
стаў служкай блакіту.
Ён пасвіў авечак,
звяроў і птушак,
сляды на траве,
а ноччу — зоркі на небе.
Калі яму рабілася невыносна —
пачынаў лічыць
аблокі, васількі, час —
усё, што было вакол.
Ён ведаў мноства моў,
мог свабодна размаўляць
з кветкамі і птушкамі,
хмарамі і дрэвамі,
ветрам і ручаём.
Знудзіўшыся жыць,
ён памёр;
пакінуў пасля сябе блакнот
з вершамі:
«Цяпер я, прынамсі, вольны —
ад сябе!»

# Арсень ЛІС: «Святая справа — вяртаць памяць»

Таленавіты вучоны-фальклярыст, этнограф, літаратуразнаўца, літаратурны крытык, гісторык беларускага мастацтва, літаратуры і культуры, кінасцэнарыст, рэдактар, мемуарыст, доктар філалагічных навук Арсень Ліс (1934—2018)...

Я шмат гадоў сябраваў з Арсенем Сяргеевічам. Яму вельмі падабалася, што я даследую Заходнюю Беларусь. Тое, што не паспеў зрабіць ён, спадзяваўся на маладзейшых. Гэта адчуваецца ў яго лістах, пра гэта мы з ім гутарылі падчас сустрэч у Мінску, па тэлефоне. А яшчэ Арсень Сяргеевіч заўсёды казаў, што сёння мала пішуць пра літаратуру XX-га стагоддзя. Не асвечана шырэй творчасць Алеся Гаруна. А ён, па словах Арсеня Ліса, не толькі быў выдатны паэт, а не слабейшы і як публіцыст. Гэта наглядна відаць на старонках газеты «Беларускі Шлях», якую ён рэдагаваў. Зусім не даследаванай застаецца публіцыстыка Язэпа Лёсіка за час рэдагавання ім газет «Вольная Беларусь» і «Беларусь». Публіцыстыка абодвух гэтых пісьменнікаў цікавая не толькі як гісторыя беларускай грамадскай думкі, але і сваёй нястрачанай актуальнасцю. Літаратуразнаўцы нашыя, беручы па вялікім рахунку, у даўгу перад пісьменнікамі Іванам Пташнікавым, Вячаславам Адамчыкам, Іванам Чыгрынавым, Віктарам Казько, Віктарам Карамазавым, Алесем Жуком і іншымі.

Падчас сустрэч і гутарак мы заўсёды размаўлялі пра нашу літаратуру і культуру. Аднойчы я ў яго спытаў, што ён чуў асабіста пра смерць Янкі Купалы і крыж Еўфрасінні Полацкай? «Пра смерць нашага паэта-прарока Янкі Купалы ведаю не больш, чым усе, — адказаў Арсень Сяргеевіч. — Нейкіх эксклюзіўных звестак, версій не згадаю. Янка Купала, як і ўсе знакавыя творчыя асобы ў таталітарнай дзяржаве, быў, бясспрэчна, шчыльна апекаваны спецслужбамі. Лёс паэта быў, зразумела, у руках іх. Яны вырашалі. Некалі, калі Расія зжыве свае імперскія амбіцыі, будуць, пэўна, апублікаваны і матэрыялы-дакументы, якія пральюць святло на трагічны зыход вялікага беларускага паэта. А што да сакральнай каштоўнасці беларусаў — крыжа Еўфрасінні Полацкай, то, думаю, марна шукаць яго ў нейкіх заакіянскіх фондах. З XVII стагоддзя нашыя культурныя каштоўнасці знікалі ў адным напрамку — на ўсходзе. Сёе-тое асела, канешне, і на Захадзе, але не столькі».

А на маё пытанне гадоў дзесяць гадоў таму, што ён не паспеў зрабіць за сваё жыццё, даследчык нашай літаратуры адказаў так: «Не паспеў напісаць аналітычны партрэт гісторыка, этнографа і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага. Моцная постаць, вучоны еўрапейскага маштабу. З рэжысёрам Юрам Лысятавым зрабілі пра яго ў 1990-я гады кінанарыс. Але сказана пра волата, падзвіжніка навукі да крыўднага мала. Збіраўся напісаць нарыс-эсэ пра асабіста сімпатычнага асветніка, палітыка, культурнага працаўніка Сымона Рак-Міхайлоўскага. Планаваў выдаць песні з нотнымі запісамі першага беларускага этнамузыколага, руплівага беларускай народнай песнятворчасці Антона Грыневіча. І шмат яшчэ».

Так. Арсень Ліс не паспеў шмат чаго з задуманага ажыццявіць, напісаць, знайсці. Таму ён спадзяваўся на маладых, што яны тое зробяць. І радаваўся, што кола прыхільнікаў беларускага слова, беларускага лёсу шырэе. 'Ім будзе лягчэй і спарней працаваць. А працы на ніве беларускай і ў гісторыкаў, і ў літаратуразнаўцаў, і ў мастацтвазнаўцаў вельмі шмат. Спадзяюся, што паспрые ўсім час», — казаў славуты даследчык.

Працоўны стаж Арсеня Ліса складае 58 гадоў — ад загадчыка педагагічнага кабінета Шаркаўшчынскага раёна і настаўніка беларускай літаратуры ў мясцовай школе да загадчыка аддзела фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, намесніка старшыні вучонага савета па абароне дысертацый па спецыяльнасці фалькларыстыка і этнаграфія, сябра экспертнага савета Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь.

Арсеня Сяргеевіча чамусьці называлі фалькларыстам і літаратуразнаўцам, а ў рэчаіснасці ён быў яшчэ і таленавітым гісторыкам. Пацвярджэннем таму з'яўляюцца яго кніга «Браніслаў Тарашкевіч» (Мінск, 1966), артыкул «Мітрафан Доўнар-Запольскі: жыццё ў навуцы» і шэраг іншых работ. Ён з'яўляецца аўтарам аналітычных партрэтаў прадстаўнікоў беларускай навуковай, мастацкай і грамадска-палітычнай інтэлігенцыі: кнігі «Мікола Шчакаціхін» (1968), «Пётра Сергіевіч» (1970), «Пякучай маланкі след» (1981), «Вечны вандроўнік» (1984), «Песня — у спадчыну» (1989), «Цяжкая дарога свабоды» (1994), «Gloria Victis» (2010), «Выбранае» (2012)).

Арсеню Лісу належыць аўтарства чатырох манаграфій па беларускім каляндарна-абрадавым фальклоры: «Купальскія песні» (1977), «Валачобныя песні» (1989), «Жніўныя песні» (1993), «Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў: сістэма жанраў. Эстэтычны аспект» (1998) і інш.

Асобная частка біяграфіі Арсеня Ліса — гэта яго дзейнасць як аўтара, суаўтара і складальніка падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для ВНУ па курсе беларускага фальклору, мастацкай літаратуры. Ён быў удзельнікам шасцітомнага тэарэтычнага даследавання «Беларускі фальклор: віды, жанры, паэтыка» (2001—2008). Арсень Ліс — суаўтар шасці сцэнарыяў дакументальных фільмаў: «Песня на ўсё жыццё», «Прысады Максіма Гарэцкага», «Зямля Тарашкевіча», «Аркадзь Смоліч», «Дзядзька Уласаў», «Адвечныя званы». Яго праца ацэнена Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за падрыхтоўку і выданне шматтомнай акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць» (1986), літаратурнай прэміяй імя Максіма Гарэцкага за кнігу «Цяжкая дарога свабоды» (1994).

У сваім хатнім архіве адшукаў некалькі лістоў Арсеня Ліса, якія былі напісаны ім у 1994—2014 гадах...

***Сяргей ЧЫГРЫН***



Арсень ЛІС

## Лісты Арсеня ЛІСА

*8 снежня 1994 года.*

*Шаноўны малады калега Сяргей!*

*Я таксама з цікавасцю і ўдзячнасцю сачу за Вашымі публікацыямі. Усцешылі Вы мяне моцна весткай аб падрыхтоўцы рукапісу Станіслава Грынкевіча[1]. Гэта вельмі сур'ёзная пазіцыя, грамадска-культурная і адраджэнская. Спадзяюся, Вы ўключылі ў будучую кнігу яго артыкулы з «Калосся» і з «Крыніцы» ды сёе-тое з яго белетрыстыкі. Здаецца, найбольш адпаведна з яго кнігі «Царква, помста, вязніца» (1928). Ну і навукова-папулярныя рэчы аб народным тэатры, універсітэце і г. д.*

*Ведаеце, што ён быў у 1945 годзе расстраляны ў Мінску? А што да Вашай просьбы, выбачайце, не магу дапамагчы. Фотапартрэта не маю, хоць у свой час мог дастаць у спадарыні Людвікі Антонаўны[2], якая, дарэчы, найбліжэй ведала яго і ліставалася з нашчадкамі.*

*У Лявона Антонавіча[3], пэўна, застаўся той альбом Людвікі Антонаўны, дзе яны збіралі кароткія жыццяпісы і фотакарткі нашых культурнікаў ды грамадскіх дзеячаў. Адрас Лявона Антонавіча Луцкевіча хіба ведаеце: Вільнюс-232049, Архітэкту, 132, кв. 69. Даўно, праўда, не пісаў яму, але думаю, што ён не змяніўся. Поспехаў Вам у высакароднай справе.*

*Арсень Ліс.*

*17 сакавіка 2009 года.*

*Паважаны малады калега!*

*Шчыры дзякуй за прысланыя кніжкі. Віншую з новай кнігай пра беларускую Беласточчыну. Мабыць, гэтым разам далі вычарпальна што да персаналіяў. Віншую з паважнай пазіцыяй у Беларусазнаўстве. Нехта пададзены эцюдна, а нехта і аналітычна — партрэт на ўвесь рост, што называецца. Перш-наперш Чаржынскі[4]... Халера, які патэнцыял у адной асобе страчаны. Хмары[5] вы далі ўсё, добра, што пачалі вершам «Мы». Абяцаў ён ні абы якога паэта, у сэнсе маштабнасці. Ажно не атрымалася. Эміграцыйныя ўмовы жыцця? Слабая адукацыя? Цяжка сказаць. Зрэшты, няважна. Сваё зрабіў як мог, як выйшла. Дзякуй яму і Вам, што вярнулі яго ўсім нам. Дарэчы, крыху ведаў я дваіх Вашых землякоў-паэтаў. І Хмара праз лісты нешта існае праясніў для мяне ў іх жыцці.*

*Вельмі няпростая задумка ў Вас — даследаваць Беларускае таварыства ў Варшаве. Пра Зоську Верас, а больш пра Рамуальда Зямкевіча[6] ды Гальяша Леўчыка[7] ў Вас хопіць матэрыялу. Пэўна, ад беластаччан можаце атрымаць звесткі пра Панько[8]: яна была дзейная ў сваёй прафесіі першыя дзесяцігоддзі БГКТ. Але вось цэлы рад імёнаў... Ці яны былі статыстамі, даруюць няхай добрыя людзі. Станіслаў Казура[9] і Браніслаў Руткоўскі[10], каб была ў нас у 1920-я гады свая дзяржаўнасць, паслужылі б беларускай культуры, а так зноў яны ўдзельнічалі па-зямляцку, а ў Таварыстве ўвогуле былі чальцамі...*

*Быў там адзін інжынер у 30-я гады, які фінансаваў, спансіраваў, як бы сягоння сказалі, Танкаў зборнік. На жаль, не магу цяпер згадаць яго прозвішча. Упусцілі Аляксандра Шыдлоўскага[11], які мог бы нешта істотнае ўспомніць пра дзейнасць беларусаў у Варшаве 1930-х. Можа нешта падказаць Юры Туронак[12]. Мікалай Шчорс[13] — цікавая постаць. Але прапісаўся ў Варшаве, пэўна, толькі перад самай вайной. Дзейсны з пецярбургскіх часоў Сталыгва[14] быў, мабыць, мала, слаба заангажаваны ў рух. Як і маладзейшы Язэп Гапановіч[15].*

*Цікава было б даведацца нешта пра Чарняўскую-Орсу[16]. Можа, амерыканскія беларусы з дапамогай Л. Юрэвіча[17] маглі б прасвятліць яе лёс. Здаецца, прыстойная была спявачка, выканаўца нашых народных прыпевак.*

*У «Беларускім летапісе» мільгалі 2—3 матэрыялы-допісы з Варшавы. Нейкую драбніцу там знойдзеце. Віславухі паходзілі, здаецца, з Пружаншчыны, але адносіны да беларускага руху ў іх былі, мабыць, чыста свае.*

*Пра Галаўню нешта чуў ад разбяра Ап. Пупко[18], гадоў 20 таму. Але, пэўна, быў гэта іншы Галаўня, які паказаўся раз-другі ў заходнебеларускім друку.*

*Што датычыць фотаздымкаў, то ёсць у мяне адно здымак 90-х гадоў, групавы з Аляксандрам Шыдлоўскім. Яго там можна вылучыць, але ці будзе такі партрэт дастаткова рэпрэзентатыўны? А, наогул, сабраўшы такі-сякі фотаархіў, па Вашым праекце не маю нічагусенькі. Выбачайце, Сярожа, элементарна было б напісаць рэцэнзію на Вашу апошнюю кнігу. Але жанр гэты надта не мой. Разы два-тры пісаў, але ні сам не атрымаў ад напісанага задавальнення, ні той, каго рэцэнзаваў, радасці.*

**Заканчэнне на стар. 10 »**

[1] Станіслаў Грынкевіч (1902—1945) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, лекар-псіханеўролаг, публіцыст, перакладчык.
[2] Маецца на ўвазе Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая, 1892—1991) — пісьменніца, лексікограф, выдавец, перакладчыца, асветніца і грамадска-культурная дзяячка.
[3] Маецца на ўвазе Лявон Луцкевіч (1922—1997) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, педагог, мемуарыст.
[4] Уладзіслаў Чаржынскі (1897—1974) — беларускі крытык, літаратуразнавец, перакладчык.
[5] Сяргей Хмара (Сяргей Сіняк, 1905—1992) — дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і беларускай эміграцыі, паэт, выдавец, журналіст.
[6] Рамуальд Зямкевіч (1881—1944) — беларускі бібліёграф, публіцыст, калекцыянер, гісторык.
[7] Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч, 1880—1944) — беларускі паэт, калекцыянер, грамадска-культурны дзеяч, мастак, музыкант.
[8] Маецца на ўвазе Людміла Панько, жыла ў Варшаве.
[9] Станіслаў Казура (1881—1961) — кампазітар, харавы дырыжор, педагог.
[10] Браніслаў Руткоўскі (1898—1964) — кампазітар, музыкант, арганіст.
[11] Аляксандр Шыдлоўскі (1911—2002) — беларускі культурны дзеяч, кампазітар, педагог.
[12] Юры Туронак (1929—2019) — беларускі дзеяч і гісторык.
[13] Мікалай Шчорс (1913—1995) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч.
[14] Уладзіслаў Сталыгва (1874—?) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч.
[15] Язэп Гапановіч (1883—1964) — беларускі грамадскі дзеяч, прадпрымальнік.
[16] Яўгенія Чарняўская-Орса — беларуская папулярная спявачка ў 1930-х гадах. Лёс яе невядомы.
[17] Лявон Юрэвіч (1965) — беларускі літаратуразнавец, крытык, бібліёграф.
[18] Апалінарый Пупко (1893—1984) — самадзейны майстар разьбы па дрэве.

# Арсень ЛІС: «Святая справа — вяртаць памяць»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

Не зважайце на агульны эпічны тон майго пісьма. Тлумачыцца гэта ў значнай меры настроем 75-гадовага чалавека. Праект Ваш нялёгкі, але пры Вашым творчым патэнцыяле і руплівасці — рэальны. У добры час!

Згадалася: некалі светлай памяці Людвіка Антонаўна ўспамінала, што ў бытнасць яе на агародніцкіх (садоўнічых) курсах у Варшаве (10-я гады XX ст.) у іх беларускі гурток заглядаў Лявон Гмырак[19] у форменным касцюме навучэнца тэхнічнай школы.

Арсень Ліс.

4 мая 2010 года.

Шчырапаважаны сябра Сяргей!

Рад, што Вы, руплівы шукальнік і вяртальнік нашай спадчыны, хочаце вырваць з цемры забыцця імя Усевалада Шырана[20].

Калісь у маладосці сустракаў яго вершы ў часопісе «Шлях моладзі», за другую палавіну 1930-х гадоў. У «Калоссі», праўда, хоць поўны камплект не трапляў у рукі, здаецца, публікацый яго не было.

Вершы не рабілі ўражання. Але, пачуўшы ад св. п. Яўгена Іванавіча[21] пра яго гвалтоўную смерць у чэрвені 1941 года, быў узрушаны. Даведаўся, што быў папулярны на Дзісеншчыне як доктар, лекар і як чалавек незалежных поглядаў, асобай.

Фота, на жаль, не маю, яго падабізны нідзе не давялося бачыць. Думаю, што можна знайсці ў Вільні. Напэўна, ён канчаў медыцынскі факультэт пры ўніверсітэце і там захавалася яго справа асабістая, дзе можа быць і фотакартка. Відаць, ёсць яна і ў справе, якая павінна захоўвацца ў Мінску, у архіве КДБ, ды цяпер той архіў недаступны.

Вось і ўсё, што магу Вам сказаць пра У. Шырана. Выбачайце, не магу памагчы ў зборы яго вершаў. Мой зямны ліміт вычэрпваецца, не паспяваю рэалізаваць нешта элементарна са сваіх творчых планаў.

Жадаю поспеху. Цісну руку. Арсень Ліс.

9 сакавіка 2012 года.

Дарагі Сяргей!

Даволі ўважліва сачу за Вашымі публікацыямі і радуюся шчыра. Не толькі за Вас, а і за нашу спадчыну, за людзей нашых, што жылі з думкай пра лепшую долю зямлі нашай беларускай.

Дзякую за апошнюю прысланую кніжку, прысвечаную сціпламу і годнаму беларусу Анатолю Іверсу[22]. І спадчыну літаратурную ўпершыню спарадкавалі, і ўсё належнае, звязанае з яго жыццём, творчасцю давялі да людзей, як трэба.

Напачатку 1960-х гадоў, збіраючы матэрыялы да дысертацыі, я асабіста пазнаёміўся з св. п. Іванам Дарафеевічам. Па дарозе з Гародні заехаў у Слонім, каб пазнаёміцца з паэтам. Прыехаў позна, у гасцініцы не аказалася месца. Пераначаваў у нейкім зрубе, а раніцай пайшоў паведамленым Сцяпанам Міско[23] адрасе. Перад гэтым пазнаёміўся з Новікам-Пеюном[24]. Пагаварыўшы з Іванам Дарафеевічам, адчуў, якія яны розныя людзі…

Атрымаў некалькі часопісаў ад Івана Дарафеевіча (бюлетэняў ТБШ). Не памятаю цяпер размовы нашай. Не быў яшчэ сарыентаваны, пра што мог бы ад яго даведацца. Зялёны быў. Адно запомнілася, што прынялі яны, Іван Дарафеевіч і жонка, чужога чалавека ўважліва і ветла. Дарэчы, у «Беларускім летапісе», пэўна гэта для Вас не нова, ёсць нямала матэрыялаў пра культурна-грамадскае жыццё беларускай грамады ў Варшаве даваенных часоў.

З цікавасцю чытаю Вас у «Новым часе». У апошняй кнізе выдзяліў для сябе інтэрв'ю з Іванам Дарафеевічам Уладзіміра Каленіка[25] і Ваша. Што датычыць маіх нарысаў пра заходнебеларускую літаратуру, то мне, папраўдзе кажучы, крыху ніякавата. Пісаў гэтыя нарысы спешна, за тры месяцы. Да зборніка «Песні на загонах», творчасці яго аўтара не падабраў ключ. Хмара мне здаўся з большымі патэнцыямі мастацкімі. Пазней я, працуючы ў акадэмічнай бібліятэцы Літвы ды наткнуўшыся на адрэдагаваны Максімам Танкам яго зборнік, яшчэ больш у тым упэўніўся. Пэўна, чацвёртую частку вершаў рэдактар не пусціў з-за асцярогі перад цэнзурай, каб не зарэзалі кніжкі. Вершы ў большасці сваёй былі радыкальныя зместам, цалкам у духу народнага фронту. Былі не слабыя ідэйна і зместам. Таму спадзяваўся, што ў далейшым Хмара паднімецца над Максімам Танкам. Ажно, мяркуючы па пазнейшай яго паэзіі, выдадзенай Вамі кнігі, таго не атрымалася, на жаль.

Ёсць там яшчэ ў віленскіх архівах рукапісныя матэрыялы Нікіфароўскага, прозай. Варта паглядзець гэтага аўтара. Трымалі яго палякі ў турме, здаецца, за БСР-грамаду, і ці не памёр ён, бедалага, заўчасна. У перыёдыцы нешта зусім слаба праявіўся.

Выбачайце, ліст выйшаў нескладны. Стомлены, хворы, стары, чаго чакаць. І апошняе. Спяшайцеся зрабіць усё, што плануеце, да 70-ці, у крайнасці — да 75. Дзялянка ў Вас шырокая. А ратаяў, як яшчэ летапіс сведчыў, — няшмат.

Усяго добрага! Арсень Ліс.




3 жніўня 2012 года.

Дарагі Сярожа!

Учора, прыйшоўшы з пахавання св. п. Янкі Саламевіча[26], залпам прачытаў Вашу кніжку «Такі іх лёс». Дарэчы, проста і па сутнасці названай. Святая справа — вяртаць памяць пра людзей не толькі годных нацыянальнага пантэону, але і прасцейшых, як Павел Лысуха[27], Анатоль Кунцэвіч[28]. Многае з апублікаванага ў кніжцы раней чытаў у перыёдыцы, але цяпер перачытаў усё. Можа, для цэласнасці ўспрыняцця. Натуральна, больш зацікавіла нязнанае. Узрадаваўся Вашаму партрэту Усевалада Шырана, інфармацыі пра Аўгена Бартуля, сына Максіма Бурсевіча Ігара[29]. Апошні быў у мяне ў хаце год 25 таму. Маю яго гімназійнае фота. Казаў, што былі ў Магілёве ўспаміны бацькі Максіма, загінулі ў вайну. Уразіла, як зыйшла з жыцця Марыя Шкялёнак[30], увогуле лёс сям'і таленавітага гісторыка Міколы Шкялёнка. Як добра, што выдадзена яго спадчына, і як сумна ўсведамляць, што яму было яшчэ толькі 47 гадоў, калі яго расстралялі.

Як і Вы, у свой час усцешыўся выданню спадчыны Леапольда Родзевіча[31] і прапусціў магчымасць даведацца пра сям'ю, род Родзевічаў ад іх сястры, што дажывала век у Саратаве. Адрас быў у Арэхвы М. С[32].

Цікава мне было даведацца, што слонімскія артысты ставілі п'есу Родзевіча «Пакрыўджаныя». У Вас выйшла практычна рэцэнзія на выданне і абазначаны добра творчы сілуэт Леапольда Родзевіча. Адна недакладнасць: «Беларускі звон» рэдагаваў не ён, а Ф. Аляхновіч[33].

Прыемна было мне даведацца паўней, як выдаваўся «Снапок». Увогуле, Сяргей Паўловіч[34] патрабуе нашай большай увагі. Не грэх бы і манаграфію пра яго напісаць. Клапатар пра беларускае і Беларусь быў вялікі і дзейны ў сваім клопаце.

Добра аддаеце ўвагу сваім землякам. Цікава, што са Слонімшчыны паходзіў рэктар Віленскага ўніверсітэта Пелікан[35]. Адыграў, дарэчы, вельмі паганую ролю ў лёсе аднаго з пачынальнікаў-шукальнікаў беларускай ідэі Міхаіла Баброўскага[36]. Не менш паганую, чым той стараста Макарэвіч у дачыненні да продка заснавальніка Слонімскага музея.

Адным словам, дзякуй Вам за руплівасць вакол беларускай спадчыны. Праца Ваша сягоння асабліва актуальная, калі нас зноў намерваюцца аформіць пад фармат «северо-западный край».

Усяго найлепшага Вам! Арсень Ліс.

26 красавіка 2013 года.

Паважаны сябра Сяргей!

Добра, што ў сваёй публікатарскай працы не абыходзіце ўвагай Аляксандры Бергман[37]. Як гісторык, сумленны і ўнікнёны даследчык беларушчыны, яна заслужвае нашай удзячнай памяці. Шкадую, што, уводзячы Аляксандру Бергман у «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», назваў у асноўным галоўныя яе працы, абмінуў публікацыі беларускіх персаналіяў у паважных польскіх перыядычных выданнях. Што да нашых узаемадачыненняў з паважаным гісторыяграфам, то былі яны працяглыя і насілі пераважна характар ліставання, хаця былі і асабістыя сустрэчы ў Мінску і Варшаве.

Першай зачапіла мяне сама пані Аляксандра пасля маіх першых публікацый пра Браніслава Тарашкевіча[38]. Я выказаў меркаванне, што Б. Традыцыя — гэта псеўданім Тарашкевіча, за што быў рэзкавата пакрытыкаваны дасведчанай у гісторыі КПЗБ і ў цэлым вызваленчага руху беларусаў даследчыцай. Задаваных мне пытанняў, на жаль, не помню. Трэба было б добра пакорпацца ў сотні, не меней, адрасаваных мне яе лістоў. Не маю, выбачай, такой змогі. Моцна стаптаўся напрыканцы 8-га дзясятку. Не паспею самую дробязь. Друкую ж у асноўным раней напісанае. Позна пачаў пісаць успаміны і зусім, што называецца, заграз (увяз) з імі. Помніцца, Аляксандра Рыгораўна Бергман не верыла, што зусім страчаны беларускі пераклад «Іліяды» Тарашкевіча, падштурхоўвала мяне шукаць яго. Але ж ты ведаеш, што інквізітарскія кастры XX стагоддзя былі значна большыя за сярэднявечныя. Маштабы іх не паддаюцца вымярэнню. Помню, што навёў паважаную пані даследчыцу на ўзнаўленне памяці Ул. Самойлы[39]. Зрабіла досыць паважны нарыс пра яго ў «Przeglądzie Historycznym», калі не памыляюся. Моцна падводзіць памяць апошнім часам.

Вельмі сімпатычны быў, дарэчы, і яе муж пан Стэфан. Не памятаю ўжо, у якім польскім часопісе апублікаваў ён «“Postulaty białoruskie” Браніслава Тарашкевіча», якія я не здолеў даць пры выданні выбраных твораў нашага славутага палітыка і вучонага. Да перакладу манаграфіі А. Бергман на беларускую мову я даў прадмову. Можа, яна табе нечым карысная. На жаль, пры вэрхале ў хатняй бібліятэцы не маю яе пад рукамі.

Добра, што ты даў штрыхі партрэта К. Галкоўскага[40]. У мяне дзесьці ляжаць копіі перапіскі яго з Якубам Коласам[41] у сувязі з працай над операй «Сымон-музыка». Самі лісты Коласа знаходзяцца ў бібліятэцы АН Літвы. Здаецца, яны яшчэ не трапілі ў выданні спадчыны паэта.

Хораша ідзеш, браце, па творчай дарозе. Дай Бог табе да 70-ці рэалізаваць творчыя планы і задумы. Пазней будзе цяжка, а то і немагчыма.

Бывай. Усяго добрага! Арсень Ліс.

[19] Лявон Гмырак (1891—1915) — беларускі празаік, крытык, публіцыст.
[20] Усевалад Шыран (1906—1941) — паэт, доктар.
[21] Маецца на ўвазе Максім Танк.
[22] Анатоль Іверс (Іван Міско, 1912—1999) — беларускі паэт, журналіст.
[23] Сцяпан Міско (1930—2010) — кандыдат мастацтвазнаўства, культуролаг.
[24] Сяргей Новік-Пяюн (1906—1994) — беларускі пісьменнік.
[25] Уладзімір Калеснік (1922—1994) — беларускі літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, прафесар.
[26] Янка Саламевіч (1938—2012) — беларускі літаратуразнавец, энцыклапедыст, фалькларыст, бібліёграф.
[27] Павел Лысуха (1892—1954) — праваслаўны святар.
[28] Анатоль Кунцэвіч (1912—?) — беларускі царкоўна-грамадскі дзеяч.
[29] Ігар Бурсевіч (1911—1985) — публіцыст, вязень сталінскіх лагераў, сын Максіма Бурсевіча (1890—1941), дзеяча беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.
[30] Марыя Шкялёнак (Марыя Брынкевіч (?—1952), жонка Міколы Шкялёнка. Была забіта супрацоўнікамі НКУС каля Варшавы ў 1952 годзе.
[31] Леапольд Родзевіч (1893—1938) — беларускі пісьменнік, грамадска-культурны дзеяч.
[32] Мікалай Арэхва (1902—1990) — гісторык.
[33] Францішак Аляхновіч (1883—1944) — беларускі драматург, тэатральны дзеяч.
[34] Сяргей Паўловіч (1875—1940) — беларускі выдавец, багаслоў, педагог.
[35] Венцаслаў Пелікан (1790—1873) — дзеяч расійскай медыцынскай навукі XIX стагоддзя. Быў родам са Слоніма.
[36] Міхаіл Баброўскі (1784—1848) — славіст, багаслоў, доктар багаслоўя, даследчык старажытных рукапісаў.
[37] Аляксандра Бергман (1906—2005) — беларускі і польскі гісторык.
[38] Браніслаў Тарашкевіч (1892—1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладчык.
[39] Уладзімір Самойла (1878—1941) — беларускі публіцыст, крытык, філосаф.
[40] Канстанцін Галкоўскі (1875—1963) — кампазітар, дырыжор, педагог.
[41] Якуб Колас (1882—1956) — Народны пісьменнік Беларусі.

# Б'ёрнсцернэ Б'ЁРНСАН: «Свет выратуюць добрыя справы»



Алена ДАРАФЕЕВА

Сёння яго імя мала каму вядомае — за выключэннем суайчыннікаў пісьменніка і тых, хто вывучае нарвежскую мову і культуру. Б'ёрнсцернэ Марцінус Б'ёрнсан (1832—1910) — нарвежскі паэт, празаік, драматург і адзін з першых лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Ён атрымаў яе ва ўзросце 71 год («як даніна яго высакароднай, велічнай і шматбаковай паэзіі, якая заўсёды адзначана свежасцю свайго натхнення і незвычайнай чысцінёй духоўнага пачатку»).

Ён — аўтар верша, які стаў нацыянальным гімнам Нарвегіі («Так, мы любім гэты край»).

Вялікі поспех мелі і яго п'есы, прычым далёка за межамі радзімы. Леў Талстой у сувязі з выхадам у Расіі п'есы «Кароль Сверэ» (1861) пісаў пра Б'ёрнсана: «Гэта адзін з сучасных аўтараў, якіх я найбольш паважаю, і чытанне кожнай яго працы дастаўляе мне не толькі вялікае задавальненне, але раскрывае новыя гарызонты».

Сын сельскага святара, Б'ёрнсцернэ пачаў пісаць вершы ў адзінаццаць гадоў. Скончыў лацінскую школу ў Хрысціяніі (цяперашнім Осла), дзе ў тыя гады таксама вучыліся будучыя класікі нарвежскай літаратуры Хенрык Ібсэн і Юнас Лі. У 1852 годзе паступіў у сталічны ўніверсітэт, але праз год кінуў вучобу, захапіўшыся паэзіяй, тэатрам і журналістыкай. У ранняй творчасці імкнуўся стварыць «новую сялянскую сагу» — як у раманах (самым вядомым стаў «Сюннёве Сульбакен», таксама «Арнэ», «Рыбачка»), так і ў драмах («Хульда-Храманожка», «Кароль Сверэ») і паэтычнай трылогіі «Сігурд Злы» (1862)).



Б'ёрнсцернэ Б'ЁРНСАН

Тэатру Б'ёрнсан прысвяціў многія гады свайго жыцця: у канцы 1850-х ён на працягу некалькіх гадоў быў дырэктарам Нарвежскага тэатра ў Бергене, а ў сярэдзіне 1860-х, вярнуўшыся з вандровак па Еўропе, узначаліў тэатр у Хрысціяніі. Аддаваў перавагу нацыянальнаму рэпертуару. Яго ўласныя «спелыя» п'есы канца 1870—1880-х гадоў адлюстроўваюць цікавасць аўтара да сацыяльнай праблематыкі: так, вялікі грамадскі рэзананс выклікала п'еса «Пальчатка» (1883), якая закранула праблемы крывадушнасці ў шлюбе і жаночай эмансіпацыі.

Шведскі класік Аўгуст Стрындберг пісаў яму з гэтай нагоды: «Дарагі Б'ёрнсан! Вы клапоціцеся аб гэтым гнюсным, наскрозь фальшывым жаночым руху! Тым часам яны выкарыстоўваюць д'ябальскую тактыку супраць нас, мужчын. Зірніце толькі на тых, хто атрымаў свабоду, эмансіпаваных жанчын. Яны далучыліся да ўсіх мужчынскіх заган: п'юць каньяк і бадзяюцца па вуліцах...»



Б'ёрнсцернэ і Караліна Б'ЁРНСАНЫ ў Эўлестадзе. Фота Anders Beer Wilse

Познія п'есы Б'ёрнсана — «Кароль» (1877) і дылогія «Звыш нашых сілаў» (1883—1895) — адрознівае глыбокі псіхалагізм і драматызм, звязаны, між іншым, з рэлігійным крызісам аўтара, яго непрыманнем кансерватызму і нецярпімасці афіцыйнай царквы. Таксама ў гэтых тэкстах прыкметнае спалучэнне рэалістычных і сімвалічных рысаў, запраўленых элементамі гратэску: па меркаванні даследчыкаў, героі гэтых п'ес шмат у чым «апярэджваюць» персанажаў экспрэсіянісцкай драмы 1910—1920-х гадоў.

З юнацтва Б'ёрнсцернэ Б'ёрнсан прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці, быў адным з першых у Еўропе, хто пачаў заклікаць да ўсеагульнага раззбраення. Па яго ініцыятыве ў Нарвегіі быў арганізаваны «Саюз барацьбы за мір», які спрыяў сяброўству паміж скандынаўскімі краінамі і Расійскай імперыяй — і ў той жа час выступаў супраць палітыкі расійскага царскага ўрада ў адносінах да Фінляндыі. Пісьменнік быў нястомным і самаадданым барацьбітом за справядлівасць і спыненне войнаў, заўсёды быў гатовы стаць на абарону нявінных пакутнікаў.

За апошнія дваццаць гадоў свайго жыцця ён напісаў сотні артыкулаў у галоўныя еўрапейскія газеты: так, ён крытыкаваў французскае правасуддзе з-за справы Альфрэда Дрэйфуса і змагаўся за правы славакаў, якія знаходзіліся пад уладай Аўстра-Венгрыі. «У яго сапраўды вялікая каралеўская душа», — гаварыў пра Б'ёрнсана Хенрык Ібсэн.

Моцна хвалявала пісьменніка і пытанне аб нацыянальнай мове. Ён выступаў за самабытную нарвежскую, якая адрознівалася ад той дацка-нарвежскай мовы, на якой пісалася тады большасць твораў мастацкай літаратуры. Горача падтрымліваў дзейнасць Івара Асэна — філолага, лексікографа і паэта, які сканструяваў новую мову на аснове гутарковай мовы і дыялектаў і стварыў альтэрнатыву дзяржаўнаму стандарту нарвежскай мовы. Спачатку яна называлася «лансмол», затым атрымала назву «новарвежская». Б'ёрнсан эксперыментаваў з лансмолам, на якой напісаў як мінімум адно апавяданне. Пасля шкадаваў, што не авалодаў гэтай мовай па-майстэрску. Як бы радаваўся пісьменнік, калі б даведаўся, што праз 120 гадоў Нобелеўскую прэмію па літаратуры атрымае яго суайчыннік Юн Фасэ, які піша выключна на нованарвежскай!

Б'ёрнсан пражыў вялікае жыццё. Нягледзячы на «ветранасць ранняга юнацтва», ён быў доўгі час у шчаслівым шлюбе з Каралінай Рэймерс, якая ахвяравала дзеля яго тэатральнай кар'ерай. Падчас святкавання залатога вяселля Б'ёрнсан жартаўліва заўважыў, што яна была для яго «добрым якарам». Дом Караліны і Б'ёрнсцернэ Б'ёрнсана ў Эўлестадзе, дзе яны пражылі разам з 1875 года да смерці пісьменніка ў 1910 годзе, па-ранейшаму належыць членам сям'і і заўсёды адкрыты для гасцей.

Б'ёрнсан любіў жыццё, яму было цяжка прымірыцца са старасцю і хваробай. Нават перад смерцю ён пачаў пісаць верш, у якім услаўляў жыццё, і назваў яго «Свет выратуюць добрыя справы». Гэты радок прынята лічыць своеасаблівым паэтычным запаветам Б'ёрнсана.

Пісьменнік памёр у Парыжы ў 1910 годзе. Яго цела было перавезена ў Хрысціянію і пахавана на тэрыторыі кафедральнага сабора нарвежскай сталіцы.




Помнік Б'ёрнсцернэ Б'ЁРНСАНА перад Нацыянальным тэатрам у Осла

У сваёй Нобелеўскай лекцыі Б'ёрнсцернэ Б'ёрнсан адзначыў двух вялікіх сучаснікаў, якія, на яго думку, з'яўляюцца маяком, маральным арыенцірам для чалавецтва. Гэта Хенрык Ібсэн і Леў Талстой — «вялікі старац з суседняй краіны на ўсходзе, які азарыў сваім духоўным святлом многіх людзей». А яшчэ Б'ёрнсан сказаў тады: «У мастацтве мы спрабуем знайсці сэнс жыцця, гэтак жа як мы шукаем яго і ў пераліўных кроплях расы, і ў зіхценні маланак. Мы адчуваем бясконцую радасць, калі творы мастацтва дапамагаюць нам здабыць яго. І нам не па сабе, мы адчуваем горкае расчараванне, калі гэта не атрымліваецца. Першапачатковыя ўяўленні пра дабро і зло, якімі глыбока прасякнута наша свядомасць, заўсёды адыгрывалі важную ролю ва ўсіх праявах нашага жыцця, яны з'яўляюцца неад'емнай часткай нашай смагі ведаў і самой нашай смагі жыцця. Мэта мастацтва — сеяць паўсюль насенне дабра, і чым больш будзе гэтага насення, тым лепш».

Паасобныя вершы Б'ёрнсцернэ Б'ёрнсана на беларускую мову пераклаў Лявон Баршчэўскі (кніга «І боль, і прыгажосць...». — Мінск: Зміцер Колас, 2016. — Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 73).



Эўлестад. Дом Караліны і Б'ёрнсцернэ Б'ЁРНСАНА

## ВЫДАННІ

# «Паланэз» слонімскіх літаратараў

У лідскім выдавецтве «Пружмень» выйшаў з друку слонімскі літаратурны альманах «Паланэз».

Слонімшчына была і застаецца багатай на літаратурныя таленты. Прыкладам можа служыць першы выпуск Слонімскага літаратурнага альманаха «Паланэз», які выйшаў у 2019 годзе. У ім былі надрукаваны творы літаратараў Слонімшчыны, якія жылі ў мінулых стагоддзях і якія жывуць сёння ў розных кутках свету.

Другі выпуск «Паланэза» (падрыхтаваў і напісаў прадмову да яго Сяргей Чыгрын) чытачоў парадуе новымі паэтычнымі радкамі Міколы Канановіча, Зьніча, Ірыны Войтка, Таццяны Трафімчык, Святланы Адамовіч, Дар'і Бялькевіч, Алены Руж, Лідзіі Шуляк. З цікавасцю будуць чытацца і празаічныя творы Уладзіміра Ягоўдзіка, Міхаіла Шуляка, Сяргея Васільева і Уладзіміра Цвяткова.




Прыгадаў у альманаху Сяргей Чыгрын і пра таленавітых і вядомых людзей Слонімшчыны, якія жылі ў XX стагоддзі. Гісторык Сяргей Ёрш адшукаў і падзяліўся з чытачамі архіўнымі знаходкамі пра жыццё і творчасць Язэпа Вількоўшчыка, Сяргея Хмары. Настаўніца Святлана Брайчук цікава распавяла пра гісторыю капліцаў Орды на Слонімшчыне і згадала пра ўладальнікаў маёнтка Жыровічы.

Са спадчыны слонімцаў альманах друкуе артыкул Аляксандра Місцюкевіча «Гісторыя забытых пагоркаў» і ўзоры лексікі вёскі Малая Кракотка Слонімскага раёна, якую пры жыцці сабраў Янка Саламевіч.

Некалі слонімскі паэт Анатоль Іверс напісаў:

*Старонка родная мая,*
*Ты зноў вясною расцвітаеш.*
*І салаўіная ў гаях*
*Да сэрца песня далятае...*

Няхай творы літаратараў са слонімскай зямлі далятаюць да сэрцаў тых людзей, якія цікавяцца мастацкім словам і гісторыяй роднага краю.

## Найлепшыя кнігі 2024 года паводле «The New York Times»

Амерыканская газета апублікавала рэйтынг 100 лепшых кніг 2024 года. У рэйтынг трапіла нобелеўская лаўрэатка Вольга Такарчук. Кнігі былі названыя супрацоўнікамі «The New York Times Book Review».

«Вось лепшыя мастацкія і публіцыстычныя кнігі года, выбраныя супрацоўнікамі "The New York Times Book Review". Праглядаючы спіс, вы можаце адсочваць, колькі кніг вы ўжо прачыталі або хочаце прачытаць. Калі вы дасягнеце 100-га месца, у вас будзе персанальны спіс літаратуры, якой вы можаце падзяліцца», — адзначае выданне.

Нобелеўская лаўрэатка 2018 года Вольга Такарчук у рамане «Эмпузія» (названым сярод лепшых кніг года) супрацьпастаўляе прыроду дзяржавы і сацыяльнага свету з асаблівым акцэнтам на гендэрных праблемах. Сюжэт кнігі разгортваецца ў 1913 годзе ў санаторыі на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Сарамлівы і хваравіты студэнт адкрывае жудасную таямніцу: кожны год на пачатку лістапада ў суседнім лесе раздзіраюць на кавалкі чалавека, часам двух... На напісанне «Эмпузіі» Вольгу Такарчук натхніла жаданне зразумець, наколькі культурныя тэксты прасякнуты жанчынаненавісніцтвам.

Акрамя «Эмпузіі» «The New York Times» сёлета прызнаў найлепшымі наступныя кнігі: «Intermezzo» Салі Руні; «Захавальнік» Яэль ван дэр Вудэна; «Джэймс» Персіваля Эверэта; «Нож» Салмана Рушдзі; «Выкрадзены гонар» Арлі Расэла Хохшыльда; «Чорная рака» Ніланджана Роя; «Вяртанне вялікіх дзяржаў» Джыма Сціўта.

## Новы склад журы Букераўскай прэміі

Актрыса Сара Джэсіка Паркер, якая праславілася дзякуючы галоўнай ролі ў серыяле «Сэкс у вялікім горадзе», у 2025 годзе ўвойдзе ў журы адной з самых прэстыжных літаратурных узнагарод — Букераўскай прэміі. 59-гадовая актрыса будзе дапамагаць вырашаць, хто стане лаўрэатам Букераўскай прэміі ў наступным годзе і атрымае ўзнагароду у памеры 50 тысяч фунтаў. Сама Паркер, заўзятая чытачка кніг, атрымала ў сваім жыцці наступныя ўзнагароды: «Залаты глобус», тры прэміі Гільдыі кінаакцёраў ЗША і дзве прэміі «Эмі» за свае ролі на экране. Яна таксама некалькі гадоў мела ўласнае літаратурнае выдавецтва пад назвай SJP Lit. Паркер займала пасаду ганаровага старшыні


Сара Джэсіка ПАРКЕР

Цэнтральнага кніжнага клуба Амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі, інтэрнэт-платформы для чытання, і члена праўлення United for Libraries. У 2016 годзе актрыса абвясціла, што выпусціць серыю кніг для Hogarth Publishing.

Разам з Паркер у журы Букераўскай прэміі 2025 года будуць працаваць аўтары, намінаваныя на Букера: Аёбамі Адэбаё і Кайлі Рыд, тэлевядучы і літаратурны крытык Крыс Паўэр ды ірландскі пісьменнік Родзі Дойл, які атрымаў прэмію ў 1993 годзе.

## «Сатанінскія вершы» ў Індыі

Кніга Салмана Рушдзі «Сатанінскія вершы» зноў даступная ў кнігарнях Індыі — праз 36 гадоў пасля выхаду. Аднак вяртанне выклікала гнеў сярод некаторых мусульманскіх арганізацый, якія заклікалі аднавіць забарону.

«Сатанінскія вершы» — чацвёрты раман брытанскага пісьменніка індыйскага паходжання Салмана Рушдзі, быў апублікаваны ў 1988 годзе. Яго назва паходзіць ад часткі Карана, дзе апісваецца біяграфія прарока Мухамеда. Асноўная тэма кнігі — эмігранты і эміграцыя, псіхалагічная складанасць выбару, немагчымасць асіміляцыі ў новай культуры і непазбежнае вяртанне да каранёў. Акрамя таго, там падымаюцца пытанні сэнсу існавання і рэлігіі.

Раман атрымаў міжнароднае прызнанне — ён быў фіналістам Букераўскай прэміі 1988 года, а Цімаці Брэнан назваў твор «самым амбіцыйным раманам з калі-небудзь апублікаваных пра досвед эмігрантаў у Брытаніі». У мусульманскім свеце кнігу раскрытыкавалі. У 1988 годзе яна была забаронена ў Іране, бо многія мусульмане ўбачылі




там абразу рэлігіі. Акрамя таго, выданне выклікала некалькі беспарадкаў сярод ісламскіх экстрэмістаў, а таксама справакавала дыскусіі пра цэнзуру і гвалт на рэлігійнай глебе. Асцерагаючыся беспарадкаў, кнігу тады таксама забаранілі і ў Індыі.

Праз год пасля публікацыі кнігі тагачасны лідэр Ірана аятала Рухола Хамейні выдаў фетву з заклікам да смерці Рушдзі. А таму, хто заб'е аўтара, прапаноўвалася ўзнагарода амаль у 3 мільёны долараў. Былі здзейснены некалькіх няўдалых замахаў на пісьменніка. Японскі перакладчык кнігі быў зарэзаны да смерці ў 1991 годзе, а італьянскі перакладчык быў цяжка паранены. У Швецыі перакладчыку з урду пагражалі, а перакладчык з фарсі доўгі час жыў у пастаянным страху смерці ад рук ісламскіх экстрэмістаў.

Замахі на Рушдзі працягваліся да 2022 года, калі ён быў паранены падчас выступу на Нью-Ёркскім кніжным фестывалі.

У лістападзе 2024 года суд у Нью-Дэлі пастанавіў, што кнігу «Сатанінскія вершы» можна выдаць і распаўсюдзіць у краіне, паколькі дакумент, які забараняе ўвоз выдання, не знойдзены.

Кніга, як сцвярджаюць, стала папулярная ў Індыі. Аднак муфтый Маулана Шахабудзін Разві Барэлві адзначыў, што «ні адзін мусульманін не можа пагадзіцца з тым, што гэтая ненавісная кніга стаіць на паліцах кнігарняў».

Сам жа Рушдзі заўсёды сцвярджаў, што «Сатанінскія вершы» — гэта мастацкі твор, і ў ім няма нічога абразлівага.

Салман Рушдзі нарадзіўся ў 1947 годзе ў Бамбеі (цяпер Мумбаі, Індыя). Брытанскі пісьменнік, крытык і публіцыст індыйскага паходжання, прэзідэнт і заснавальнік Міжнароднага парламента пісьменнікаў. Яго творы часта спалучаюць магічны рэалізм з гістарычнай фантастыкай і ў асноўным тычацца «сувязяў, разрываў і міграцый» паміж усходняй і заходняй цывілізацыямі.

## Прэмія імя Данііла Граніна

Расійскі кніжны саюз, урад Санкт-Пецярбурга і выдавецкая група «Эксма-АСТ» аб'явілі аб старце прыёму заявак на атрыманне Нацыянальнай літаратурнай прэміі імя Данііла Граніна.

Прэмія заснавана з мэтай «пошуку і заахвочвання таленавітых аўтараў, здольных ствараць літаратурна-мастацкія тэксты высокай якасці ў традыцыях лепшых узораў рускай прозы і зрабіць істотны ўклад у захаванне і развіццё мастацкай літаратуры, працягваючы традыцыі творчасці Данііла Аляксандравіча Граніна». Асноўнымі патрабаваннямі да работ намінантаў з'яўляюцца «бясспрэчныя мастацкія добрыя якасці тэксту і прасоўванне традыцыйных духоўна-маральных каштоўнасцяў».




Прэмія будзе прысуджацца адзін раз на два гады ў трох намінацыях: «Вялікая проза», «Малая проза» (нарысы, эсэ, апавяданні), «Шукальнікі» (папулярызацыя навуковых ідэй у літаратуры, тэхналогій і прагрэсу ў мастацкіх вобразах).

У першым прэміяльным сезоне могуць быць вылучаны празаічныя творы, апублікаваныя не раней за студзень 2023 года ў выглядзе асобнага выдання або публікацыі ў літаратурна-мастацкіх часопісах. Стаць лаўрэатам прэміі можа любы аўтар, які піша празаічныя творы на рускай мове (раманы, аповесці, зборнікі аповесцей і/або апавяданняў) незалежна ад узросту і месца жыхарства. Але важная дэталь: аб'ём тэксту павінен складаць не менш за 5 аўтарскіх друкаваных аркушаў.

Вылучыць творы на суісканне прэміі могуць выдавецтвы, рэдакцыі літаратурна-мастацкіх часопісаў, літаратурныя асацыяцыі, творчыя саюзы і аб'яднанні, бібліятэкі, музеі, сродкі масавай інфармацыі, профільныя ведамствы суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, іншыя арганізацыі, якія займаюцца прасоўваннем кніг і чытання. Прыём заявак працягнецца да 4 лютага 2025 года. Абвяшчэнне і ўзнагароджанне лаўрэатаў адбудзецца ў дні правядзення Санкт-Пецярбургскага міжнароднага кніжнага салона (22—25 траўня 2025 года).

## Ва Украіне — амаль 10 000 кніжных прадпрыемстваў!

У 2024 годзе ва Украіне афіцыйна значыліся зарэгістраванымі і дзейснымі 8585 выдавецтваў і кнігараспаўсюджвальнікаў. З іх 6319 — юрыдычныя асобы, 2266 — індывідуальныя прадпрымальнікі.

Больш за ўсё іх працуе ў Кіеве — 3206, у Кіеўскай (487), у Днепрапятроўскай (458) і Львоўскай (446) абласцях. 2326 прадпрыемстваў займаюцца выключна выдавецкай дзейнасцю, 683 — выпрацоўваюць выдавецкую прадукцыю, 557 — спецыялізуюцца на яе распаўсюджванні. Больш за 5000 сумяшчаюць некалькі сфер дзейнасці.

Усё гэта, на жаль, аніяк не супастаўляльна з колькасцю і свабодай «кнігаробаў» у Беларусі...

## Усерасійскае 100-годдзе Васілія Шукшына

Стогадовы юбілей Васілія Шукшына ў Расіі будуць адзначаць на дзяржаўным узроўні. У. Пуцін даручыў ураду ў шасцімесячны тэрмін сфармаваць аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 100-годдзя Васілія Шукшына, а таксама распрацаваць і зацвердзіць план юбілейных урачыстасцяў.

Знакаміты артыст, рэжысёр і пісьменнік Васілій Шукшын нарадзіўся 25 ліпеня 1929 года ў алтайскай вёсцы Сросткі ў сялянскай сям'і. Паступіў на рэжысёрскі факультэт, калі яму споўнілася 25 гадоў, маючы ўжо некаторы жыццёвы досвед. Ён працаваў слесарам, служыў на флоце і нават быў дырэктарам вячэрняй школы ў роднай вёсцы. Ужо першы фільм «Два Фёдары» дазволіў гаварыць аб ім як аб адкрыцці савецкага кінематографа.

Яшчэ ў інстытуце ён пачаў пісаць апавяданні пра сваіх аднавяскоўцаў і ўсё больш часу надаваў гэтаму занятку. У творчасці Васілія Шукшына перапляліся літаратурны і акцёрскі талент. Ён зняў фільм па ўласным сцэнары «Жыве такі хлопец», які атрымаў узнагароду Венецыянскага кінафестывалю. За ім былі «Там, удалечыні», «Печкі-лавачкі». Стужка «Каліна чырвоная» ўвайшла ў залаты фонд не толькі савецкага, але і сусветнага кіно. Галоўныя ролі выканалі сам Шукшын і яго жонка Лідзія Федасеева-Шукшына.

У апошні год жыцця Васілій Макаравіч працаваў над раманам «Я прыйшоў даць вам волю» пра Сцяньку Разіна, але скончыць яго не паспеў, раптоўна памёршы падчас здымкаў у фільме Сяргея Бандарчука «Яны змагаліся за Радзіму»...




Адрас электроннай пошты:
litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.